

холадна дрэвам
але
якая цёплая музыка шчасця

разам з табою патонем
у чорнай палонцы вакна

а на тым баку — голыя дрэвы
у сінім паветры голыя дрэвы
і вецер грае на іх галінах
і ты кажаш якая ціхая музыка
шчасця
скрозь гэтыя чорныя дрэвы
скрозь спаленыя лісты каханых
скрозь дзіцячыя вершы
скрозь
зманлівы шкла паратунак
грэем рукі на познім восеньскім сонцы
цалуем прожылкі кляновых лістоў
і ўсміхаемся далёкай старасці
якая здаецца нам амаль
немагчымай
на сінім полымі газніцы грэем гарбату
і падпальваем памяць
нячутна смычка кранаюцца пальцы

наша музыка пахне мандарынавай
скуркай
і апалым лісцем

і халоднымі дрэвамі
у чорнай палонцы вакна

*1995*



наша заўтра заўсёдным пяском
між застылымі пальцамі
што болей не могуць
як яшчаркі стомленыя
мітусіцца

наша заўтра
так звыкла будзённае
што мы не заўважаем як ліхтары
адплываюць у туманную далячынь

наша заўтра не мае аўры
радасці і смутку

і ўсё ж
твае рукі такія тонкія
што з імі любое паліто
здаецца занадта цяжкім
а рукавы кароткімі

і ўсё ж
не прападаюць
зімовыя яблыкі ў згубленых снах
а старое гарышча захоўвае водар мёду
вечны жнівень
і кожная страта ўсё меней баліць

і таму я згодны
каб наша заўтра цякло заўсёдным пяском
між застылымі пальцамі

толькі б мой пясочны гадзіннік
пераварочвала
ты...

*1995*

# З нагоды ліставападаўскіх халадоў

## Эсэ

### I

За намі, нібы сляды, ззяюць вершы. Па іх — толькі вымаві слова! — можна вярнуцца назад, у той час, у той свет, калі — нам здавалася — прарочылася і стваралася будучыня і нам трэба было толькі чакаць, каб яна спраўдзілася і стала явай. Але будучыня, створаная словам, аказалася магчымай толькі ў сферы духу, а ў зямной рэчаіснасці яна стала падманам — будучыня, якую чакаюць, не прыходзіць. У нашых вершах — пытанні... Жыццё ж, збудаванае на пытаннях, губляе ў рэшце рэшт неабходнасць адказу, які, існуючы нейкі час на перыферыі свядомасці, для свайго з'яўлення патрабуе ад цябе ўчынкаў і спраў. І ёсць толькі адно — няпэўны, хісткі, але для нас адзіны аргумент: для паэта ўчынак — твор.

...Дык вось, па вершах, па гэтых слядах зноў і зноў вяртаюся да тых крыніц, з якіх раней я наталяў і сваю чалавечую смагу, але цяпер яны ёсць толькі ў памяці сэрца, а час, калі яны былі насампраўдзе тут, незваротна мінуў. Сабою, нібы ракавінай, я злучыў і абмежаваў два светы: быццё і быт, плоць і дух і яшчэ нешта, што было дадзена як магчымасць, як дзверы з надпісам «Не ўваходзь».

Першае каханне, па сутнасці, стала для мяне як хрышчэнне для паэта. Помню, стаю на Ізмайлаўскай, чакаю тралейбуса, спазняючыся на спатканне, і ад хвалявання ламлю пальцамі ў кішэні запалкі...

Потым, пасля расстання, тралейбусы падыходзілі часта, але спяшацца ўжо не было куды — і, сеўшы ў адзін з іх, чуў пах дэзадаранту іншай дзяўчыны і згадваў цябе... і мацней сціскаў парэнчы, каб адагнаць насланнё.

Так, трэба акрэсліць: той, хто шукаў кахання і пяшчоты, не знайшоўшы іх, часта апынаецца перад холадам свету. І тут прыйшла паэзія: нехта падаў сляпому палку ў цемры — ідзі, намацвай шлях...

Я выжыў, але частка холаду перайшла ў мяне — нібы я праглынуў шарык ртуці, але, не памёршы, пачаў вымяраць холад свету сабой.

Я піў ваду, але чыстай яна не была. Не была яна і бруднай, ды, урэшце, не была яна наогул вадой, тым, што прыносіць наталенне: гэта было віно, але яно не захмяліла, а змяніла мяне — нібы я далучыўся да адчування нейкай іншай праўды? страты? віны?

Што гэта азначала тады, не памятаю, але ведаю: так я ступіў на цёмную дарогу і даверыўся таму, што вядзе.

Гэта бывала так: вечарам, не маючы спраў, выязджаю ў горад. Аўтобусы поўныя людзей, але не адчуваеш да іх ні любові, ні адчужанасці. Ты як быццам не існуеш, пакуль не прыйшло *гэта*. Тое, з чым ты часам забаўляўся, як з цацкай, як дзіця забаўляецца з бацькавым пісталетам, цішком выцягнутым з кабуры, што ляжала ў прыстолку ля зжаўцелае партупеі. Дык вось, ты выязджаеш у горад... усе вуліцы знаёмыя, і раптам — невядомы завулак. Мокрая ад дажджу асфальтавая паласа, паабапал — чорныя дрэвы... Ступаеш крок — і нібы правальваешся некуды. Прыходзіш да свядомасці праз дзве гадзіны —

дзе ты быў? Што было з табою? Над табою бразгае пад ветрам ліхтар... Ноч, транспарт ужо не ходзіць... І тут бачыш: жалезная агароджа, зламаны аловак, разбітыя ў кроў рукі і ў нататніку — верш.

А жанчыны, дзяўчаты... Не помню, для каго з іх я пераклаў радкі Арві Сійга, але ўсё адно — яны для кожнай з іх: «Так, я абяцаў табе заўсёды берагчы Жывымі чырвоныя цыкламены, якія ты мне падарыла аднойчы. Берагчы заўсёды жывымі Гэтыя кветкі. А значыць — і цябе...»

Узаемнасць перастала быць мэтай і якраз таму стала магчымай. Але... Ужо іншае вабіла мяне, іншага прагнула душа. І, трымаючы ў сваёй руцэ дзявочую далонь, я слухаў тое, што вырастала з нашых слоў, тое, чаму — я думаў так! — варта аддавацца і служыць, што было невыказна большым — я веру ў гэта! — за каханне і любоў.

Спачатку далёкае, яно мякка свяціла і вабіла. Але чым больш я набліжаўся, тым усё меншым і больш яркім рабілася яно, сляпіла зрок для астатняга, дазваляючы бачыць толькі сябе. Аднойчы я пайшоў на канцэрт у філармонію. Скончылася першае аддзяленне. У буфеце ўзяў 50 грамаў віна і сеў за столік. Празвінеў званок, а ў мяне знікла жаданне вяртацца ў залу. Праз сцены прыцішана даносіліся гукі музыкі. Я дапіў віно, спусціўся ў гардэроб, апрануўся. На вуліцы заўважыў дзяўчыну, якая таксама сыходзіла з канцэрта. Проста — як птушка падлятае да вады, каб напіцца, — я падышоў да яе.

Пазнаёміліся — яе звалі Ксеня. Яна ляжала ў бальніцы і збегла ў той вечар на канцэрт. Ёй было дваццаць сем гадоў, яна працавала ў музычнай школе,

а яе бабуля — гардэробшчыцай у філармоніі (па гэтых звестках потым, праз пяць гадоў, я беспаспяхова спрабаваў знайсці яе).

...Пра што гаварылі мы ў падземных цягніках — забрала падзямелле. Выйшлі з метро на Нямізе, перайшлі мост... Было слотна. Маленькі, цесны калідорчык бальніцы... Яна сказала: «Вдруг кто-то видел, что молодой человек проводил меня...» Ледзь заўважная ўсмешка, бледны твар... І тут я зразумеў: ёй так хацелася, каб нехта пабачыў нас разам і гэтым было б сказана пра нас: Мы. Але тут у ёй, нібы ў крывым люстэрку, я пабачыў сябе мінулага, тое, што ўжо было: доўгія валасы, вялікі рот, нечыя разнятыя рукі — а потым надзейны мур, да якога можна прыхінуцца спінай.

...Я развітаўся і выйшаў на вуліцу. «Так, я абяцаў табе заўсёды берагчы...» Калі зможаш, Ксеня, даруй.

«...Чаму ж ты шукаў яе потым, праз пяць гадоў?» — спытаеце вы. Спытайце пра гэта абкарнаныя галіны дрэў майго горада і шэрае неба над імі — яны адкажуць вам больш за мяне.

## II

Калі ты маеш цёплы і ўтульны дом і цябе часта клічуць былыя папялішчы — падумай, ШТО ДАРАЖЭЙ, а вырашыўшы — ідзі. Толькі памятай, што ў садах, пасаджаных словам, няма хлеба галоднаму і вады засмягламу, але таму, хто зойдзе туды, цень робіцца даражэйшы за цела і ўспамін — даражэйшы за жыццё. Тут, у гэтым жыцці, цяжка змірыцца з тым, што старэюць дрэвы, і немагчыма — з тым, што старэюць бацькі. Але там, у тых садах, ты бу-

дзеш бачыць нябачнае і бачнае — бачыць не будзеш. Там заўжды маладыя дрэвы... Там бацькі ніколі не пазнаюць сыноў.

...Мае дні адны і тыя ж і ўвесь час розныя... Я ствараў свае дні, як скульптуры, і любаваўся імі адзін. Аднойчы — гэта быў 1996 год — я прыехаў у раён плошчы Перамогі. Снег падаў і раставаў, не даляцаючы да зямлі. Я зайшоў у краму з назваю «Хлеб» і замовіў шклянку кавы. Адна прадаўшчыца звярнулася да другой: «А когда-то у меня по белорусскому языку была пятёрка...» Новыя фарфоравыя зубы прадаўшчыцы дрэнна стасаваліся з абвіслай скурай на шчоках, але настальгія ў яе вачах была непадробнай. Я ўзяў каву і, прыхлёбваючы, пайшоў да Дома літаратара. Каля крамы з каляровым надпісам «Жако» і вялізным папугаем стаяла машына з міліцыянтамі. Верхняе адзенне ў іх было расшпіленае, і было бачна, што ўсе яны пры гальштуках. Гэта крыху засмуціла мяне, бо гальштукі з дубінкамі мне падаліся несумяшчальнымі. Зрэшты, усё гэта мала цікавіла мяне. У фае Дома літаратара я ўбачыў афішу аб выступленні хору з нейкай музычнай школы. Я вырашыў паўтарыць каву.

Пахаладала, і снегу ўдавалася даляцець да зямлі. Дзе-нідзе крохкімі белымі межамі ён лёг уздоўж тратуару. Зрэшты, у сняжынак свой клопат, свой неспакой: знайсці тое месца, дзе будзе бачна тая зорка, адкуль яны ўпалі сюды... Дык вось, пасля другой шклянкі свет падабрэў і забыліся трывожныя міліцыянты, забылася прадаўшчыца, чыя недарэчная настальгія нават на фоне экзістэнцыі такога паэта, як я, выглядала манументам без надпісу, музей-

ным рэліктам з часоў савецкага палеаліту. Усё гэта знікла, растварылася ў прыцьме, заставалася музыка, да якой я ішоў, — адзінае жывое сярод камяніц.

Выступоўцы, якіх было чалавек 30, у строгіх канцэртных касцюмах выстраіліся на сцэне. Гледачоў было добра калі ў два разы больш, і ўсе яны паселі чамусьці ў канцы залы, пакінуўшы наперадзе пустыя месцы — злавесны прагал, які музыка мусіла пераадолець.

...Добра слухаць «Месяцовую санату» і думаць пра немагчымае. Гучыць музыка, быццам перасыпаеш з рукі ў руку цёплыя перліны, што з’явіліся з невядомай скарбніцы, якая, цудоўным чынам расчыненая Богам, належыць усім. Але перліны цёплыя, пакуль ты ў цёплай хаце і цёпла не толькі целу, але й душы ад таго, што немагчымае страчвае рэальныя абрысы — яно мае іх! — і, набліжаючыся, робіцца рэальным. А якая яна, гэтая музыка, сапраўды — знае бязвокая і безаблічная, як смерць, цемра, ведаюць ледзяныя завулкі і, канешне, ведае слова «бывай». «Маё аблічча будзе ўваскрасаць У снежных гурбах вытаптаным словам...» Так, вытоптваючы сваё імя пад вокнамі каханых, блукаючы ў цемры, замярзаючы на гэтых завулках і мовячы слова, якога не паўтару, — так мы толькі рыхтаваліся да гэтай дарогі, да якой былі закліканыя, мы зрабілі сябе неадчувальнымі да болю, мы сталі роднымі цемры, пакінуўшы, але не забыўшы святло.

...Пасля канцэрта я выйшаў на вуліцу. Мне падалося, што музыка засталася там, у цяпер ужо зусім пустой зале, і творыць зараз нейкі свой абрад. Я ішоў і ўзгадваў перадачу пра Гендэля, якую чуў па радыё.

Нейкі час ён жыў у Англіі, і публіка яго не любіла. Каб не хадзіць на яго канцэрты, яна наведвала італьянскую оперу. Аднойчы Гендэль прыйшоў на свой канцэрт і ўбачыў пустую залу. «Што ж, у такой зале мая музыка будзе гучаць лепш», — сказаў ён. У такой зале мая музыка будзе гучаць лепш — кажу гэта і я... Гэта ўсё, што табе застаецца, — казаць гэтыя словы, — скажаце вы. Не! Гэта не ўсё, што застаецца мне! Гэта не ўсё, што застаецца нам! За намі, нібы сляды, ззяюць вершы. Куды вядуць яны — не знаю, але знаю: мы можам пайсці па іх. І яшчэ знаю адно: верш не павінен быць ліхтаром, які асвятляе тупік.

*Лістапад 2000*



Пяро мусіць быць пяром. Тым, што ляціць
(падхопленае ветрам) недастаткова пэўнае каб
займаць
пастаяннае (канкрэтнае) месца ў звечарэлай
прасторы.
Камень
мусіць ляжаць, уціскаць сваёю вагою зямлю,
магчымасць (як неабходнае ветру пяро) і воку
засведчыць
сябе сярод нерухомых дрэў і чыстага снегу
на якім
гаманлівыя сарокі яшчэ не паспелі
пакінуць сляды.
Але мясціны
мусяць застацца такімі ж і быць пазнанымі табой,
інакш — свет разгубіцца і забудзе
тое што мае замест імя.

Прывесці ўчора дахаты і
быць у пасцелі з дзяўчынай. Потым
паіць яе чаем. Чырвоныя плямы на твары
пасля таго што было. Ёй будзе хацецца
Гэтага зноў! (гэта значыць, паўтору). Але
я так хачу паўтору таго чаго не было ніколі
(Гэта значыць — адзін раз. Ні да таго, ні пасля
не.)
Цяпло
без вызначэння (чыё? хто?) губляе пэўнасць
хвіліны і рук

і ўжо як замест адзення. Спякота ў жніўні
Кораню і лісту.

Пяро мусіць быць пяром. Нерухомым
у нерухомым
паветры.
Вусень, кокан, матыль — перад парой
нараджэння
заўжды існуем  п а м і ж.
Заўжды запыняемся, плачам
каля незнаёмых хат.
Ухапіцца за нешта (позіркам ці рукою),
утрываліцца тут, быццам ногі ўкапаць у зямлю
і так і стаяць.
Хочаш — збудуем дом?
Не, не стоячы на дарозе
і гледзячы на камень —
пакуль немагчыма
неяк інакш —
а

*2001*



жоўтагаловы поплаў
быццам
твая беза-
бароннасць (вось так пераносіш слова
з радка на радок нібы працягваеш
пад лязом гільяціны танюткі дзявочы волас
(доўгі і —
дачакаўшыся промня сонца разгледзіш: жоўты
(у сэнсе колеру а не дзьмухаўцовага пылу на лязе
касы таго хто адпачатку заўжды мае рацыю
кладучы ў сваю пасцель след аднакрылай вароны
на чорным кавалку глебы і зберажоны
пах матчынага агню)))
дык вось твая беза-
бароннасць — не зброя супраць мяне твае рукі
не пастка
тут на дне высахлай студні дзе пералічвае
бетонныя кольцы побач са мною чмель
а я — наяве і ў сне —
уадначас трымаю на руках зямлю двух берагоў
у цёмнай вадзе пяску я быццам плод
на яблыневым голлі цяжкі
па-над асфальтам чакаючы падарожных якіх няма
і вось твая беза-
бароннасць пытаецца: ці не пара
выйсці з дзяцінства і зберагчы кветкі першы
ўмалот
апалае семя не баяцца касы?
і не помніць што
кветкі ў гародчыку перад тым як пераходзіць

у мой верш заўжды атрасаюць з карэння
жыццядайны глей

*Чэрвень 2002*

# Накцюрн

Я іду. Наплывае прастора,
Не ўмяшчаецца ў зрэнкі мае.
Быццам радасцю поўны ці горам,
Адхіснуся ізноў ад яе.
Адхіснуся назад — і растануць
Пад гарачай спіной камяні.
І ўваскрэснуць з былога падману
Насампраўдзе азяблыя дні.
На ільдзіне — падбітая качка.
Ну, куды ты плывеш, Рабінзон?
Хлебны мякіш падкінуць — падачку
Ці дашлюць у патроннік патрон?
Што чакае за горадам, паркам,
Што чакае ў зімовых лясах?
А мяне — зноў каменная арка
Кліча ў свой непрадбачаны шлях.
Не суддзя я — ні птушкам, ні людзям,
Не дзялю гэты свет напалам.
Засынаюць ахвяры і суддзі,
І не холадна ноччу звярам.
Я іду — нахінаюся ўперад
У скразняк, у марозны сусвет.
І зіма — павітуха памерлых —
З белых кветак мне дорыць букет.

*25–26 студзеня 2002*



Выспы, дрыгва... І мільгае хусцінкі краёк.
Устаць бы з каленяў прад самай высокай сасной,
Дзе ў голлі схаваны бурштынам мільгне абразок,
Прыбіты, напэўна, Айца альбо Сына рукой.
Гэта Духам святым удыхнулі іскрынку ў цябе —
І цяпер ты гарыш, і вядзеш мяне цераз брады,
Дапамогі не просячы, выратавання з бяды...
Мітуслівыя вулкі сплываюць з душы без журбы,
Калі клічаш мяне, і гучаць тваё «так» і «цяпер».
О, палеская радасць нязнаных дагэтуль сустрэч!
Дзе на Вербніцу сцежка прыводзіць
да самай царквы,
І жабрачка з анёлам, што з похваў не выніме меч,
Пакуль попел расстанняў, дзявочых апушчаных
плеч
Зноў не стане чужым і з душой не пяройдзе
на «вы».
З ручая акрапіў мяне жартам святою вадой
Бог Вясны і Кахання...
Шыбанула мне хмелем у твар
Ад таго, што было, падавалася, створана з мар,
А цяпер ажыло — і цячэ ў сініх жылках рукі...
Вось паклалі сякеры — і аб гэтым пяюць леснікі,
І падлесак імкнецца не ўверх, а за мной і табой.

*2002*



*А. С.*

Сястра і брат, і вечар немаўляці
Распавядуць, хто яблыні сусед.
Хто там, за плотам, у чырвонай хаце,
І для каго гатуецца абед.

І на старой сасновае падлозе
Каму чыгун дыміцца, грэчкі пах
Дзіцячыя каму казыча ноздры...
На поплаве, у жоўта-шэрым стозе,
Дзе паляўнічыя паснулі ў кажухах, —
Сон аб дзіцяці, што згубіла крыжык.
Рыпяць на снезе бацькавыя лыжы.
Саломінкі на стрэльбах, у барадах.
Растопіць шэрань іхні сонны подых.
Здабудуць звера — вернуцца дамоў.
Як адсвяткуюць — папалююць зноў.

Ды ім не спіцца. Ў зрэбнае кашулі
Ніхто не йдзе па снезе ад матулі.
Ды нехта ў сне заўжды наводзіць рулю
На блізкага, на брата, на арла.
Прачнецца — не падымецца рука...
Таму кладзі далей сякеру, серп,
Прасі аб дараванні ўпалы хлеб,
Усім даруй ты — покуль не аслеп.

Знайдзі свой крыжык — і надзень на шыю.
Бліжэй туліся матчыных грудзей!
Дарма шукаць замены ім, надзей

У гэтым свеце! Быць дзіцём чысцей.
Заўжды нам поле снегам ногі мые...

*14 лістапада 2002*



Я пакрыўдзіў цябе? Што ж, даруй і бывай.
Мы ад крыўды губляем спакой.
Ды калісь абяцаў мне уквечаны май,
Што ты станеш аднойчы маёй.

«Гэты холад астудзіць любое жытло,
Гэты холад, што ў сэрцы тваім...» —
Ты казала мне так. Ці інакш не было?
Ці я вінны ў сэрцы сваім?

Хто за намі ідзе, хто кладзе на сляды
Вінаграднае лісце і лёд?
Хто каштуе за нас нашы сны, як плады,
І кранае пакінуты мёд?

Не зайздросці яму! Гэтых вуснаў туга
Ўсё па тым, чаго тут — не было.
З кім ні будзеш заўсёды, абы не адна! —
Як праклянцце, як крык, як прыгнёт.

Ды не я, ды не я праклінаю цябе!
Паглядзі мне ў руку — там вада.
Там пад чоўнам у глыбі рачное цяпер
Мы з табою — нібы ў невадах.

...Да жыцця нас вярнулі малітвы бацькоў.
Ты даруй — ды мяне абміні.
Няма слова ў людзей, што б забіла любоў.
Забіваюць каханне
яны.

<...>



Прылюдная споведзь стамляе.
Прыемна пачуць
Над сабой шапаценне лістоты,
Грушкі, ветрам сарванай, удар аб зямлю,
Брэх адзінокі
Сабакі
У полі бязлюдным.
А ты
У адказ прамаўчы.
Хоць бы раз
Не рабіся падсудным!
Хоць бы раз
У адказ на «люблю».

*2002*

* * *

І не такія, як я,
Ламалі лязо мяча
Аб мур,
Ля якога стаю.
І плашч скідалі з пляча,
І кленчылі зноў: люблю!

А я не схілю кален,
Бо страшней ад цяжару сцен
Здрада сабе.

І нават страшней
За страту Цябе.

Амэн.

*2002*

# 24 студзеня 1996 года

* * *

Праз цёмнае поле
іду на святло вакна,
і мне ўсё адно —
сваё яно
ці чужое.

* * *

Твой радасны голас
у тэлефоннай трубцы —
як сіняе неба,
якое ўдыхаю
я.

* * *

— Забярэш з сабою разам
і яе? —
адліга запыталася
у лёду,
што адрываў
вярбы прымерзлы стан
ад каранёў.



*Н. Б.*

Адзінае выйсце — ўзыход.
Прадбачанне, ясная радасць,
Сцяжына, якую не страціш.
Сляпы абмінем карагод.
Адзінае выйсце — ўзыход.

Адзіная зорка — твая.
Яна наварожыць завею
І разам са мной пасталее.
Адзіная зорка — твая.

Нам марыць — і не зразумець:
Куды нас адводзіць змярканне
Ахвярамі на паляванні?
Мы помнім старыя спатканні.
Нам марыць — і не зразумець.

Не бачыць, не чуць, не хацець,
І ўсё ж — незгасальна свяцілца,
І класціся долу іглічай
Рука ля рукі — і скалець.
Не бачыць, не чуць, не хацець.

Парву — так, як струны — страфу,
Радок абарву — будзе млосна.
Як свечкі, знямелыя сосны
Мне свецяць — і я не засну.
Парву — так, як струны — страфу.

Цябе
        так хацеў захапіць,
Прысвоіць, прылашчыць, прымусіць —
Са мной каб засталася ў пустцы.
...І пустку — як памяць — любіць.
Цябе так хацеў захапіць.

Цяпер я малюся табе.
На зорку тваю, на завею.
Я здольны аджыць? Скамянею?
Цяпер я малюся табе.

*1995*



— Ты добра падумаў,
Перш чым рабіць
Тое, што робіш?

— Я — вецер,
І мне дазволена
Блытаць твае валасы.

— Ты добра падумаў,
Перш чым хацець
Тое, што хочаш?

— Я — вецер,
І ты час ад часу
Абапіраешся на маё плячо.

— Навошта паклаў ты
Мне цвёрда-гаркавае
Слова на вусны?

— Я — вецер,
І таму прыношу табе
Чужыя імёны.

*1995*



Мы — рыцары імгненняў.
Служым ім... Мы — верныя.
І нам не быць святымі.

Паэты мы — і нам не ўсё адно,
Ці водгуллем пажарышчаў акно
Люструецца, ці гэта — захад сонца, неба чырвань.
Ёсць карані, якія нам не вырваць.
Ёсць тыя дні, адкуль нас не відно.

Пакуль жа — верныя таму, што ёсць вакол,
Хоць помнім іншае, ды не пакінем хат,
Дзе плача немаўля, і дзе малое асляня,
Што павязе цара, б'е мяккім, але ўпартым
капытом.

Пячора, зорка... Вечны Віфлеем.
Знайдзіся ты, о, хто паверыць нам!
Знайдзіся ты, хто не разбурыць храм,
Які быў кожнаму падораны ў сабе!..

*2003*

# Жбан, вада

## Паэма

1

...Мой човен — след. А талая вада
Паціху напаўняе ручаіны,
І з рук маіх сплываюць прэч правіны,
І больш пакуль не маю што аддаць.
Мой жбан без дна, і вечка прычыніць
Старога куфра лёгка і старому.
Пасаг твой, мілая, падрыхтаваны. Час
Аддаць сваю руку, пайсці са мной дадому.
Ідзі ж, плыві... Без жбана не адпіць
Тугі і скрухі. У празрыстых скронях
Вады, бы пульс, плывуць кудысь малькі.
На плоце ўсе патрушчаны глякі.
Перад сабой сашчэплены далоні.
Мой жбан — ён цэлы. Целу ацалець
Прасцей, калі, бы ў кокане, зіме,
Як маці, падаеш руку бясхібна.
Каб па адным не змерзнуць, не скалець,
На ложку нашым сцелеш ты прасціну.

Так, ты мая — дачка, сястра, жана...
Шукаць яшчэ кагосьці мне — даволі.

2

Калі ты спаць кладзешся дацямна,
Тады не мар, што будзеш жыць на волі.

У клетцы — птушка, зерне — у руцэ.
Дзіцяя малюе хату, дым і комін.
Растане снег, як мёд у малацэ.
Дачка не ведае, што слова ёсць — «ніколі»,
А ведала б, то веры не дала б.
У сені выскачыць, там зазірне ў аконца
На плот у снезе, на сляды гусей,
Якіх бабуля корміць пад павеццю,
А маці ўжо нас кліча да стала.
Пачне ўжо хутка звон над вёскай бомкаць,
На службу клічучы, каму паслаў святла
Малітвы, веры Бог. Я выйду ў сенцы
І конаўкай праб'ю лядок, паверхню
Яго халодную, і зачарпну з вядра,
Нап'юся, зубы застуджу, каб сэрца не прагоркла.
На дне вядра, бы водбліск промня ў снах,
Бы залаты дукат, старое сонца.

3

Пара за справу. Летнік за адрынай
Нятоплены і выстылы, такі,
Як і патрэбна мне для працы без сябрыны.
Адзецца цёпла, выйсці — на двары
Пакінуць дабрыню, сяброўства, жаль.
Злавіць сняжынкі-нерушы крышталь.
Занесці ў летнік, пад акно, на дошкі,
Пакласці побач з лупаю, і трошкі
Счакаць. Схаваць пад маску твар,
Каб пад дыханнем не растаў нябесны дар.
Глядзець на грані. Канты ледзяныя
Сыходзяцца заўжды наадварот,

Чым гэтага б хацеў засмяглы рот,
Якому «піць» вышэй за ўсе стыхіі.
Раскрышвае аловак мой графіт
На тым лісце, дзе гаспадар Еўклід.

...Я ўсё запомню. Вынесу, адмыю
Сваю душу, да гэткай чысціні,
Пакуль у вёсцы не запаляцца агні.
Ляжыць сняжынка. Там, над хатамі, — дымы.
Мой жбан стаіць, чакаючы вады.

4

Маўчалі птушкі семдзесят гадоў,
Каб спеў птушыны чулі мы наноў,
Каб не са слоў бацькоў — ізноў, ізноў,
Каб самі чулі спеў. Дамоў
Вяла дарога — рэчкай, да карчоў,
Да спелае труны старых высноў,
Да кніжнае трухі — дамоў, дамоў.
А мы не верылі, што смак старых замоў
Нам прыйдзецца па сэрцы, што й цяпло
Прытоенае бацькава — было,
І матчына цяпло — было... Не тло.
Было і ёсць. І знікнуць не магло.
Уваскрасала рыбіна ў карчах,
І мы адводзілі ад нашых твараў жах,
І з дрэвам, што спявала па начах,
Былі мы побач, і без апранах.
Параніць дрэва немачы маглі,
Параніць дрэва роспачы маглі,
Прасілі даравання — бо маглі
Жывымі быць для смерці і вады.

І не шукалі мы ў хлусні брады.
Амінь.

5

Інакшы дзень, інакшае жытло,
Святло вачэй інакшых для таго,
Хто гэта заслужыў.
Хто хлебам быў —
Галоднай ёй, хто быў вадой
Засмяглай — ёй. Азяблай быў — агнём...
Для тых такое, хто заўжды ягнём
Ішоў пад нож, і хто прывык плаціць,
І хто гатовы быў азалаціць
За слова, што жадалася пачуць...
А я заўжды хацеў адно — адчуць,
Што нешта ёсць на свеце *проста так*,
І што любоў да бліжняга ёсць знак
Таемнай тоеснасці да кахання — так!
Адзін зачын, на ўсё адзін закон.
Іначай — скон.

6

Ну што ж, трымайся. Вось жа — да краёў
Наліты жбан вадой, і на мароз,
Як той юнак, што ўсіх пагроз
Не забаяўся,— так, той камсамолец, —
Ён выстаўлены. Праўда, той бярог
Сумленне камсамольскае, білет...
І ён памёр — бы атрымаў стылет
Сабе пад сэрца. Так, ён быў паэт
І ў нейкім сэнсе нават і эстэт.

Але ты выстаўляеш на мароз
Свой жбан ні для чыіх шчымлівых слёз
Па бедных чарапках —
Хай знікне прах! —
Праверыць трэба проста — сценак моц,
Каханне да вады і моц пагроз
Марозу — надламае твой сезам
Ці, скораны, урэшце знікне сам.
(Чаму ж не апусціў сваю руку ты сам
У гэты жбан?)

**7**

Ды жарты — прэч! Я помню, як вада
Лілася з конаўкі, імкнулася да дна,
І сустракалася з зямлёй замерзлай,
І падымалася уверх па сценах,
І дасягала краю. Так — яна
Запоўніла мой жбан адразу,
Як я паспеў адзін раз удыхнуць
І выдыхнуць паветра. Сябра, будзь!
Іду я ў мірны свет, у свет людзей,
Але табе — цяпло маіх надзей.
...Мне снілася той ноччу... Іншы дзень...
...Серп завастрыць, і накляпаць касу,
І ранішнюю не праспаць расу.
Быць дзеду сябрам, а не толькі ўнукам.
Сялянская няпростая навука...
«Тваё» не трэба, а патрэбен — ты.
А ўсё тваё — што аддаеш, то дзякуй.
І помняцца бабульчыны прысмакі,
І помняцца парэчкі, і кусты

Маліны, што мы з дзедам абіралі,
І самаробны плыт, — на ім пераплывалі
Раку...
Мне снілася — і сон мой, як абруч,
Увесь з табою быў, ён сілай многіх рук
Табе дапамагаў... Вось — ранак зноў заціх
За вокнамі... Ізноў для нас дваіх!

8

Сама па сабе прыгажосць —
Кветка на схіле гары.
Труна, дзе апошнюю косць
Дагрызлі
Дабра
Змагары.
Сама па сабе прыгажосць —
Кветка, але не гара.
Пакуль не адчуў, ягамосць —
Табе ёй
        у рукі
                пара!

9

Перавяжы крыж-накрыж безыменны
Травінкаю, і вось ты ўжо — жаніх.
Каменьчыкі стралою перамены
Выкладваюць, каб шлях ты ні на міг
Не зблытаў, не забыўся... З паляндвіцай
Чырвонаю талеркі на стале.
Таксама — чаркі з вадкасцю празрыстай,
Якая ператворыць ў гарманіста

Любога — хоць іграць бы ён не ўмеў.
Перад табой — яна. У белых строях...
А ты — пры гальштуку, у чорным пінжаку.
Куды яна глядзіць? На лес? Раку?
І што такое ёсць мы тут сягоння?
Што ў нашай ежы, у вадзе і хлебе?
А Бог — ён сярод нас, але й на небе...
Ты даў руку, і вось — вам разам жыць.
Вы здольныя кахаць — а нарадзіць?

10
**Кантрапункт**

Белых мух, пра якіх напісаў Герадот,
Бачу зноў прад сабою палёт.
Апусціліся ў сад
І на дахі хацін,
На святло і цяпло, на пяшчоту раслін...
А драўляныя вёслы ляжаць і чакаюць рукі
Каля лодкі рассохлай, ля самых варот.

Нешта цьмянае ў словах людскіх —
І таму, перастаўіўшы іх,
Як ніхто раней, мабыць, і не спрабаваў,
Ты выводзіш сябе на дарогу,
                                        дзе памяць старых
І нядобрых людзей —
                                  быццам гімн, які адгучаў.

...З мовай рыб і раслін
Падыходзь да замерзлай ракі,
І кладзіся на шыбіну-лёд,
І глядзі з-пад рукі,

Як ля самага дна засынае
Маленечкі сом...
І згадаеш тады, як спявалася
Ліпеньскім днём:
«Дзе ты будзеш спаць,
калі твая вада пасцель —
Ў сухмень?
Дзе ты будзеш жыць,
калі твой дзень ужо не дзень —
А цень?..»

11

Мы марылі пабыць сам-насам з тым,
Што вочы закрывала нам, як дым.
Было яно крылом — ні белым, ні сівым,—
Бясплотным... Невядома, ці жывым.
Анёлы там? Ці д'яблавыя слугі?
Шкада, ды толькі побач друга,
Каб нешта распазнаць, не мелі мы.
Мы проста верылі, і нечаму служылі,
І нашы рукі млелі ў кайданах
Ці звязаныя кветкамі — на страх...
Маліліся на нашу несустрэчу
Ваўкі і фарысеі — не авечкі.
Мы вобліку не верым нездарма
Ўсіх тых, хто кажа нам: павер, няма
Нічога там — у вечарах зімовых.
На шкле — узор марозны. Больш нічога,
Павер, няма! І не глядзі ў сябе!

Ды там адбіўся, веру, боскі свет.

## 12

Чакаючы, напэўна, халадоў,
Маўчыць мая паэма. Колькі дзён
Я падымаў свае радкі з руін снягоў.
Пад сілай неадхільнаю адлігі
Яны, бы рунь, былі.
А ты не йшла дамоў,
За вокнамі чакала не вятроў,
А цёплых слоў
Маіх. Сплывалі крыгі
І заміралі ў новым карагодзе,
Як холадам дыхне. Маёй прыродзе
Ужо даўно бракуе пастаянства.
Але, калі мы здолелі пабрацца,
Не трэба больш суцішваць парыванні
І трапяткіх грудзей судакрананне.
Сляпому трэба што? Ці дараванне
Яго грахоў, ці бачыць зоры, неба, свет?
Ў каханні гіне — і адродзіцца паэт.

## 13

Усё, што сказана пры людзях,
Адразу як бы — без мяне.
Адразу як бы — снег і студзень,
Ды толькі гэта — мой памер.
Сутонне. Трэмала дажджынак,
Ледзь запаволены акорд.
Пліту магільную, ільдзіну
Адсунь, рака! Адкрыты рот
Злавіў дыханне незнаёмых...

Там пераборы струн! — душа
Не мае што сказаць нямому...
Ёсць памінальная імша,
А ёсць жыццё — не запаволіць
Яно сваёй кабылкі ход.
...Ты выйдзі, мілая. Не позна.
Чакае хохлік ля варот.

14

Пад спеў зурны — захочацца хурмы,
Віна з аджарскіх гор — каб поўны жбан!
Абняцца так, каб захацелі мы
Удвух сысці, пакінуўшы дзірван.
У скронях цесна — гулка б'ецца кроў
Аб сценкі вен, пульсуючы... Агонь
Наш не патухне, покуль не сагрэў
Дарэшты нас, да самых сэрца сцен...
А да далоняў — прыкладае спеў
Дажджу — сам Бог. Мы не чужыя тут,
І Бог не пажадае нам пакут.
Таму нам можна — разам начаваць
І мілавацца, моўчкі абдымаць
Сваіх дзяцей, і быць адно з адным,
Спяваць, шаптаць...
Глытаць кахання дым.

15

...Атрэсваючы бруд зямны з далоняў,
Атрэсваеш зямлю. Сячэш карэнне,
Крыніцу засыпаеш, сувязь рвеш.
З чаго тады напоўніш жбан, нальеш?

Няма ў раслін ніякіх пакаленняў—
Там повязь ёсць. І замаўкае верш...

Ды бруд зямны — не на сумленні бруд.
Паэта не пытайцеся: «Ты Брут?»

...А ты, калі ты хочаш *гаварыць,*
Вазьмі свой жбан, і не забудзь наліць —
Адно імгненне будзе вецер дзьмуць —
Ў яго сваё жыццё, а не ваду.

16

Я так хацеў змяніць танальнасць слоў,
Што мне было няважна ўжо, пра што
Яны гавораць. Быў я рыбаком,
І я цягнуў свой невад дзень за днём,
Хоць знаў,
Што для душы прыстанак лепшы ёсць — Нішто.

17

...Але пакуль ты ёсць — абпальвай жбан.
Хай ля вагню сагрэецца душа.

18

А што рабіць з табой пасля, мой дружа?
О, як размалявалі цябе сцюжы!
Пастаўлю ў цябе ружу — падарую
Я той,
Якая мне радкі мае дыктуе,
Якая — і мілуе, і цалуе,
Ты ведаеш — яна ёсць вобраз твой!

Вядзе мяне — яна ёсць ты — да ложка,
У поле, на змаганне, да стала.
Старыя дні, прымятая трава...
І рутамі цвіце твая дарожка
Да нашай леснічоўкі, да вяргінь.
Гарбатай рукі мы не грэлі ані трошкі
Не толькі ўлетку, але і — зімой.
Браў шуфаль я, ты венік — ганак твой
Блішчэў заўжды адчышчаны — і просты,
Як шлях туды, адкуль няма шляхоў
Назад, ты ведаеш. Там ёсць адна любоў.
І там знікаюць смутак, гора, роспач,
Ператвараюцца ў напой цудоўны твой,
Які нагбом пілі мы неаднойчы.
Не вымаўлю імя, не маю моцы.
Калі ёсць Бог — ён ты. І... Божа мой!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Так, ты мая — дачка, сястра, жана...

## Post scriptum

Д у ш а   м а я! — скажу два словы,
Звяртаючыся да сябе самога,
Застыну ў вусцішы. Вось гэта — я?
Паўторыць гук сябе, і — удвая
Каменьчыкам углыб мяне, бы ў студню,
Спадае слова з вуснаў, быццам з рук.
Рука ж — трымае абламаную галінку-прут,
Што помніла калісь: спяваў жаўрук...
Д у ш а   м а я! Гукаючы, я ў рэху
Сябе збярог? Пакінуў? Ці спаліў?
Зямлёю сад плады свае спяліў,

А ўсё было мне мала — чалавеку.
...Я жыў, як сніў. І снамі пад рукою
Праходзіла жыццё, і павуцінне ў твар
Кідала восень на маё адно: спакою!
Не раб, не цар, не вой, не валадар,
Я ўсё хаваўся ў прывідныя гмахі,
Паіў карэннямі то ружу, то палын,
І быў бліжэй я — да арла... да чарапахі...
Д у ш а  м а я! Ты праўда — успамін?

*12 лістапада 2003 – 4 красавіка 2004*



...Але ёсць іншае, чаму служылі мы,
Пакуль не збудаваліся дамы,
Пакуль, бы кветка, расцвіло дзіця,
Аб чым кажу цяпер — пасля? пасля?
І не шукайце ў голасе маім
Хоць ноты шкадавання — горкі дым
Былых агнёў растаў, даўно ачах,
Ад вогнішчаў, што паляцца ў вачах,
Ад вогнішчаў, што паляцца ў грудзях,
Але пасля не пакідаюць — прах.
Ад доўгіх вей, ад твараў, што пазнаў, —
Бы хто цябе паклікаў, бы пазваў, —
Цяпер адно: ляжыць халодны лёд
На вёснах тых — і ён, нібы прыгнёт,
Іх беражэ для вымаўленых слоў,
Для паламаных ды іржавых кайданоў,
Для вуснаў тых, што цалаваць гатоў
Калісьці быў! Цяпер я праміну,
Я абміну сустрэтую вясну,
А як працягнецца рука ў маю руку,
А як зляціць каштан, пад ногі ў пух,
Пад ногі ў пух таполевы?! Ў адным
Імгненні злучыць поры года дым,
Які заўжды — і толькі — аб адным.
Ды непадзельны я заўжды ў сабе самім.

*2004*



Нам тоесны, нераспазнаны знак
Звініць беразняком, у тонкім вецці,
Бы «так» і «не», бы нотны стан для смерці,
Бы радасць у прачыненым акне,
Бы поўня-лямпа свеціцца ў вачах
Каханай — так, усё як «так» і «не».

Але між гэтых слоў — жыццё. Між палюсоў,
Між плюсаў-мінусаў — чым жывіцца кагорта
Будзённых дзён і свят, пустых старонак,
Як не самім табой?

Напрамак вызначальны — і прамая
Вядзе наперад. Можа, і крывая,
Парабала... — ды невядома як,
Але душа ўсё ж успрымае знак,
Які ён ёсць. Стаяць твае бярозы,
Ліхтар патухлы — бо дванаццаць дня.
Усё з табою, роднае, чужое.
Ты шэры, як асфальт. Ты неадрозны.
Ты можаш быць. Застацца без імя.

*2005*

# Юначае

Залілі зоркі бітумам гарачым
І ўмацавалі ў дахі тых дамоў,
Дзе ёсць Каханне. Так. Ніяк іначай.
Каб ведаў я, адкуль навек сышоў.

І ўзмах рукі, і пах, і дотык ружы...
«Бывай», «Пакуль», «Любі», «Не падыходзь»,
Але — без слоў. Прайсці мароз і сцюжу.
І без адзнакі — толькі прыгажосць.

*2005*



Нязбытны сон
Глядзіць з усіх вакон.

Ён каменем стаіць, расце травою
І жаўранкам звініць над галавою.

І пырскі ў твар дажджу,
І ўсіх красунь
Усмешкавае ззяе прывітанне.
Я ёсць жыццё! Я быць хачу! —
Мне скажа дзень, які настане.

І спаць жывым, і класціся ў траву,
І абрываць адцвілыя пялёсткі
Ўсіх сумных кветак. Я кажу
Рацэ — каб не хавала плёсаў,
А лес — сцяжын... Пакінуты адчай,
Я веру, больш нас не здагоніць.
Мы — выжылі. Ляж да майго пляча.
Няхай цалуюць нас у твар
сівыя коні.

*2005*

# Яно

Ёсць нешта пэўнае. Не тое каб цвярдзей
За цела, і не тое каб цяплей
За пер’е на грудзях птушыных...
Трава найменне мае — канюшына,
Хлеб з крамы — на тваім стале.
Ёсць нешта пэўнае. Але, але, але...
Стаіць яно, жыве ля сцен каменных,
Ля хат, дзе пахкае смалістае бярвенне.
І — нам чужы, ды ўсё ж — ёсць далягляд.
А цені, нашы ранішнія цені
Пад нізкім сонцам падаюць назад.
Вось гэты стукат ног, вось гэты крок,
Вось пошум дрэў ля цёмнае будоўлі
І плод, што ветрам скінуты да ног, —
Бы водгук на тваё нямое слова,
Ў прастору кінутае. О, як ты хацеў,
Каб зеляніна не злятала з дрэў,
І каб жывое нам заўжды было суседам!
Каня па сцежцы ўзболаткам вячэрнім
Заводзіць дзед. Гаворыць нешта мне,
Гнядога рассупоніў. На ілбе
Каня — крывавіць ранка, у двары
Шуміць і кліча з дзедам нас бяседа.
І ад сякеры след у клёна на кары.
...Прыходзіць госць. Цвік забівае ў сценку
І вешае свой плашч. І кроплю ловіць зрэнка.
І дождж ідзе.
...І весніц рып, і ўсё карэнне груш —
Яны звяртаюцца да нас. Чаму ж, чаму ж

Нічога адказаць яшчэ не можам,
Пакуль не ляжам ім суседам новым?
Да беспрадметнасці імкненне душ —
Вось тое, вось яно, чаго ўнікае Слова.

Каб паўзу затрымаць, мы доўжым гук.
Хто палюбіў — той не разніме рук.
І малако ў бітонах
на калёсах
Там, унутры, гайдаецца...
А плуг
Да вываратня мкне, і ўжо з нябёсаў
Нам месяц свеціць, і трава,
Як родная, глядзіць з адхону ў росах
На кветкі стылыя... На посах.
Каб паўзу затрымаць, мы доўжым гук!
Мы доўжым гук — і лічым сэрца стук.
І ў гэта ўсё ўплятаюцца разводдзі
І засухі, платы, двары, стагоддзі,
А мы з пустых не выпускаем рук
Яго,
А мы ўсё доўжым, доўжым, доўжым гук,
Бы зараз прыйдзе і збудуе дом
Яно —
Для нас — жывых,
для нас — і моцных, і нямоглых.

*2005*



Хваля выкіне ў жоўты пясок слімака, слімака.
Як ён трапіў сюды? І чыя перад намі рука?
Ля цяпельца сядзі, выбірай, што пакласці,
схаваць
Ў гэты прысак — і дзе можна бульбіну ўзяць?

І тады пажадалася мне — санаторныя дні,
санаторныя дні,
І бетонныя пліты вакол, і сядзець пры вагні
Сваёй лямпы настольнай,
і нешта паціху пісаць —
Ці кароценькі верш, ці чыёсьці жыццё сачыняць
У даўжэзным рамане. Абы, прамінаючы, дні
Па сабе не пакінулі следу. Яны —
Гэта праўда раслін, што растуць
недзе там, у глушы,
Іх пачатак, канец — нам нябачны.
Пра гэта кажы —
Ці маўчы.
А дажджы — шаргацяць за вакном,
за вакном,
Кроплі ў глебе знікаюць
за тонкім надтрэснутым шклом.
Піяніна гучыць — каля вазы ў куце, ля сцяны.
А півоні страсаюць пялёсткі
ў чаканні зімы.

*2005*



Пляце сваю Арахна павуту,
А ты стаіш на мосце, і ў ваду
Глядзіш, глядзіш... Там зоры — аж да дна,
І стуль глядзіць у зрэнкі нам вада.
Цячэ між камянёў, плюскоча ў берагі,
І кожны з нас — адзіны, дарагі
Вадзе глыбокай, дробненькім глыжам
І не ў апошнюю пару — магчыма й нам
Самім... Ды помняць толькі музыка —
і верш,
Які ты ёсць, які ты — н а с а м р э ч.

*2005*

# Гарлачыкі

Гарлачыкі — чые? Хто іх сарве, ці мо
Таго, хто не кранае прыгажосць,
Чый човен
Наводдаль спыніцца?.. Яго.

...Але й таго яны,
Хто не баіцца вадзяной сцяны,
Хто іх сарве, нырне глыбока.
Дзе срэбнаю луской асвеціць дно
Нямая рыбіна... Яно —
Дно тое — вабіць рух і вока.

Гарлачыкі ж — чые? Імшанік і сасоннік?..
І мы — не мы, а цішыні сінонім.
Дык вось, сарве, дастане, вырве корань,
І кветку — у графін. Але ж — не выкінь
Карэнішчы — іх любяць сонца блікі.
Падсушацца ў падстрэшшы, на гарышчы,
Дзе звязкі сохнуць траў, і тчэ павук увішна
Амаль празрыстую бліскучасць — павуту.
Кубло пчалінае калісь было ў куце,
І там паставілі старэнькую тахту,
Заўжды патрэбную — як хочаш спаць
ці не...

...Калыша нашы грудзі ува сне
Жыццё, —
Чым і карэнне жывіцца на дне
Маё...

Люблю паселішчы, ў якіх няма дарог,
Бы ў горадзе, — вялікіх, шумных, тлумных...
Там можна проста — адпачыць бяздумна
Хоць тыдні два. І дзе воданапорнай
Будынак вежы — самы ёсць высокі.
Прачнуцца раніцай, калі зямныя сокі
Падыдуць да крыніц, узяць вудзільна
І апярэдзіць промень Ра. Надзьмі ты
Старэнькую — на латцы латка — лодку
І заплыві туды, дзе больш няма свабоды
І рабства, і да вечара вудзі,
І як адкрыюцца гарлачыкі, глядзі.
Але ты падплыві бліжэй — і зазірні
Той кветцы ў твар.
                                        І ўвесь зямны абшар
Тут раптам звузіцца, і стане нам прасцей
Не быць, не радавацца, не абняць дзяцей
Пазней калісь. Ну, а сказаць прасцей —
Ў адносінах сябе адчуць, што не-
Не-вечнасць — ёсць не вырак — дабрыня.
Хто кветку рве — яе не помніць дня.

...Як па спіралі ад каменьчыка ідуць
Не кругам — хвалі,
Нас сюды
                    узялі
Не для таго — як халаднее ртуць —
Каб нашы вусны ў смазе халаднелі.
Яшчэ гайдаюць нас нябачныя арэлі...
Як адгарнуць
Старонку кнігі, што гайдаюць хвалі?
І як вярнуць,

Чаго не бралі мы, аб чым не зналі?
Туман сплыве, асядзе каламуць.
Г а р л а ч ы к і — чые?
Ці адказаць:
Зямля — зямлю — забудзь?..

*21 ліпеня 2005, Бароўка*

# Кветкі ў разорах

Чарвякі дажджавыя
выпаўзаюць з глыбінь, смаўжы
падпаўзаюць бліжэй.
Гэта кветкі ляжаць у разорах,
жоўтыя, чырвоныя кветкі.

Міса, ад якой падымаецца пара.
Накроены лустамі хлеб, цыбуліна,
гронка кропу, на паперцы
драбочкі солі. На траціну напоўнены
чаркі
чырвонай наліўкай.
На пліце, дзе літары й лічбы
(прозвішча, даты жыцця),
кімсьці кінутай на зямлю,
ўсё гэта.
І не чуваць, не чуваць крыніцы,
але блізка яна, тут.
На кладцы, зламанай
пасярэдзіне кімсьці, я
схіляўся заўчора, зачэрпваў
і піў, і не казаў нікому, што
смаўжы, смаўжы падпаўзаюць
бліжэй, што дажджавыя
чарвякі выпаўзаюць з глыбіняў,
бо ў разорах — кветкі,
жоўтыя, чырвоныя кветкі,
зааранныя сёння,
ляжаць.

*2005*



Нам зноўку абяцаюць, але нам
Не трэба абяцанняў. Дыванам
Патрэбны дотык ног, а караблям
Патрэбны хвалі. Цемра — кажанам.
Маўклівым трэба ціша. Камяням —
Ляжаць у сховах. Помніцца вятрам,
Як шаргаціць саломай мышаня
Пад самаю страхою. Помню я,
Як мне казаў настаўнік: «Укладай
У сэрца розум». Дзень не абяцаў,
Што ён надыдзе. Ён прыйшоў. Настаў.

*13 жніўня 2005*



Усё, што за вачніцамі — па-за —
Глядзі, глядзі... Стаяць, замёрлі яблынь
Смарагдавыя постаці — ды вабяць
Густыя цені ў марыве... Між намі
Дрыжыць мяжа... Тут веі. Тут не ззябне
Твая рука й плячо. Хусцінка і рукаў
Ёсць не адзенне, слухай, будзем разам.

Што ёсць яны? — а покрыва змяркання.
Прываблівала тое, што пасля
Падробкай таннаю падасца, адмысловым
Падманам — шчырасцю агучанае слова?
О не! І тое, чым жыве душа...
Не, лепш застацца тут. Не трэба заўтра.
Трымайцеся пры нас, абрысы яблынь,
Смарагдавае шчасце Наўсікаі.
Дрыжы, пульсуй, мяжа.

*2005*



Кармі з нажа бязрукага — ды так,
Каб не параніў вуснаў, асцярожна,
Кармі з нажа яго — каб можна
Было адчуць сапраўдны мяса смак
Таму, хто ўжо не можа паляваць,
Таму, хто больш не хоча забіваць.
...Хто не адчуе смаку пораху. Куркоў
Сталёвы ляск — ім не пачуты будзе,
Кароткі стрэл — ні ў верасень, ні ў студзень
У чаратах не збудзіць рыбакоў.
Дзівосных пёрын фарбы — апішы
Сляпому, за руку яго трымайся,
Са стромы побач з ім — ідзі, спускайся,
Я птушку бачу! — бачачы лаўжы,
Сасоннік шэры — ты яму скажы.
Ды мне — глядзі мне ў твар. Мой
каляндар
Не мае месяцаў — аслеплых ці відушчых,
Ўсясільных ці бяссільных. Зараз мусіш
Адно паслухаць. Ты — зірні мне ў твар.

*2005*

# Пытанні ў адказ на запыт

Абвугленыя словы трэба вам
Аплочваць вэксаль — на які душа
Закладзена? Але пры чым тут я?
Шукаеце напіцца ручая
Ці каб з нажа змыць кроў?

Схаваны шлях у цемені бароў.
І спіць матыль пад пахаю ў вятроў.

*2005*

# Гаворыць Арахна

Адказу на пытанні там няма.
Але не запытаешся — дарма.

Мёд выцякае па кары з дупла
З пчалінай хаткі. Поўная святла
Ад яснай поўні, ноч не заінее
За вокнамі. Прадбачыцца завея
Яшчэ не заўтра. На календары
Яшчэ кастрычнік. Лічбаў не сатры.
Пяць год мы сеем — і збіраем хлеб,
Дыханнем грэем шкло, не маючы патрэб.
Што ж, вернемся назад. Хто гаварыў
Праз дзверы ў хаце, нам не адчыніў?
Мёд выцякае па кары з дупла
З пчалінай хаткі. Поўныя ўраджаем
Каморы пчол — ад ліпеня да мая
Паверне год назад свой крок. З вясла
На павуцінне белае сляза
Рачная ўпала — там, на узбярэжжы
Ракі — забытыя, дзе спяць мярэжы.
Зноў вернемся назад.
Чакае сад.
Мёд выцякае па кары з дупла
З пчалінай хаткі. Поўныя ўраджаем
Каморы пчол. Я час, які не мае
Сябе. Гадзіннік, што ўнутры пусты.
Як соты пчол. Як цёмныя лясы.
Над жоўтым раўчуком марудным кружаць,
Гатовыя цікаўных адагнаць,
Там пчолы — й радасці няма, але й не тужаць

Там пчолы, так! Дзе ісціны няма,
Там ёсць салодкі мёд. І ён цячэ
Без ведання, без подыху. Яшчэ
Жыццё не навучылася ў сябе
Аратым быць і госцем — на сяўбе.
Заўжды — альбо... Там тое, што хацеў,
За вокнамі адкрыецца — дзе спеў
Яшчэ не прагучаў — і не замоўк.
Мы ў дзверы стукаем, але нямы замок.

Вазьміце мёд, які кастрычнік зблытаў
І май. Вазьміце мёд, які ніхто не выпіў.

Прыйшлі ж за ім? Бо гэты вынік кветак,
Засохлых крыл пчаліных, пустак, вербаў,
Якія — атулялі даўні сад.
Вазьміце мёд, які вядзе назад.
Каб не было нічога, што было.
А толькі будучыні зор святло.
Вы не за гэтым тут? Вам будзе мала?
Раку забраць вам? — рэчка не адтала
Яшчэ ад лёду Ўчора — і дарма...
Цячэ вада праз пальцы, да жытла
Хрыста распнутага?.. Усё жывое — дзіва.
За шклом цячэ рака —
жывая, як карціна.

Вось паміж слоў адкрыецца. Яно
Лягло, як мост —
Між берагамі ведаў,
Набытымі табою — і чужых,
Яно лягло — між мёртвых і жывых,
Дзе радасці не перашкода вера,

Злучаючы, не дзелячы, напраўду,
Яно лягло. І ты пабачыў — Заўтра
Ў бязмежным полі. Дзе святло, дзе змрок?
Не важна, хто ты — вынік ці выток.

Абы паслухаў лён. І снег адкрыў замок.

*Кастрычнік–лістапад 2005*



Не ўвянчалі каронай увагі
хвілечасовасць,
бо ў пяску рачным,
бо жалезны чайнік з днішчам,
якое ржа
ператварыла ў сіта,
настойвае дзьмухаўцовы адвар
горка-салодкі
шчэ дасюль, і ў пяску рачным
асакі схіленай постаццю
мезенец парэжаш, якАя ты
назаву ды паклічу — Ая,
без пасрэднікаў-сноў, Ая,
ілбы, бы ў сне, што не досыць сніш
туляцца да
не Месяца траўня, куфра бабулі,
да якога не дадасі
ні ключа, ні слова,
рыба, закапаная па жабры
ў пяску рачным, выбавіцца
з бяды як быццам вадою з дна
назад у раку гусям глыток
пералётным, горла сухое, бы,
немагчымае бы,
бы сокам натоленыя
саркафагі будынкаў
на месцы садоў
нешта скажуць тым, хто пасля
будзе шукаць нашы рысы

ў пяску рачным, складаць у словы
спевы вады

*Снежань 2005*

# Паэт

Парадак слоў прадвызначае нам,
Куды ступаць і што казаць сябрам,
А што затоіць з маці напалам.
Ёсць крыгі — і асеннія лісты,
Ёсць ластаўкі — і пад зямлёй краты,
Бадзягі ёсць — і ёсць гаспадары,
І спёка ёсць, і сіверы-вятры.
І праўда, непатрэбная табе,
Хлусня, з якою кожны дзень жывеш,
І не заўжды прачнешся, з кім заснеш.
Стан рэчыва, замерзлае вады
Мы называем — снег, а трэба — ты,
Глядзім у профіль, трэба толькі ў твар,
Каб мы пазналі, як міне абшар,
Каб мы пазналі, як міне жыццё,
Чыё імя са шкла далонню сцёр
З нас кожны тут. І як далёкі бор
Шуміць, ты знай, як выйдзеш насупор,
Пачуеш раптам шум — дзе галасы
Па-іншаму, як водгулле красы,
Гучаць, яны па-іншаму гучаць,
Бы нешта шчэ магчыма расказаць.
Ёсць галасы — як аркушы-лісты...
Калі мінем прагалы-пусткі, мы
Пабачым роўнядзь навакол — вады,
І крыж на выспе, і свае сляды.
Няўжо мы тут — пытаемся — былі?
Дык, значыць, мы сябе ўжо аддалі,
Мы шмат разоў дасюль ужо жылі,

Душу прымалі, адпускалі... Лі-
лі ваду на камень, а быльнёг
У вазу ставілі — не мелі кветак. Мох
На дрэвах рос. А пад страхой ялін
Вілася сцежка; кожны йшоў — адзін.
Ты не хацеў, але ты вольным стаў
Ад іншых, ад сябе... І ты сказаў:

...Я чысты ад жыцця. Я толькі шкло,
Што прапускае ў твой пакой святло...

*29 студзеня – 2 лютага 2006*



Мне трэба непатрэбнае, жывое.
Не ўключанае вамі ў спіс, рэестр.
Нібы студэнты мы. А тое,
Пакінутае, быццам на семестр
Інакшы (не ў жыцці), яно — чакае.
Не цэгла, а гваздзік — між рэйкамі трамвая
Ляжыць, пакінуты — яго спыняе шлях.
А мы плывем на арках, на мастах,
А мы плывем на дахах, на дамах,
У кветках, дуплах, на нямых крыжах.

Вось бачыш — непатрэбнае. Я н о
Ні да чаго, яно не служыць людзям,
Не грэе ліпенем, але яно й не студзень.
Яно — бы кветка.Толькі не сарвеш,
Каханай не падорыш. Пакладзеш
Хіба на тыя пліты, што не бачыш,
Дзе побач мы ступалі ў сне юначым.
Шчыруюць дворнікі. І вось ужо — ад снегу
Ачышчаны шырокі тратуар.
Як будзем пералічваць, чым трымаў
Нас гэты свет, тады нам хопіць пальцаў
Адной рукі. Але не трэба спехам
Казаць пра тое, што пакіне ў нас
Нязмыўны след — яснейшы, чым таўро.
Я дыхаю паветрам. І — я н о.
Відэлец, шклянка, белая талерка
Ў серванце, што на кухні; там, на шкле,
Намаляваны браткі ад рукі
На той талерцы. Падарункамі дачкі

Застаўлена паліца. Не з рукі
З такой талеркі есці. Паглядзі
Туды, ў акно. Там белыя масты,
Там мы плывем — і вы, і мы, і ты,
Клапоцімся, каб на веласіпедзе
Маленькі асцярожна ехаў сын.
Мы хочам быць, ды мы з жыццём суседзі.
Мы на адной пляцоўцы з ім жывем,
Бывае нават, часам пры сустрэчы
Вітаемся, але не пазнаем.
На самай справе — іншай, нам жа — лішняй,
Але яно прыходзіць ласкай вышняй.
Мы дзівімся — навошта мне? Чаму?
Яно ўсміхаецца, сыходзіць. Каламуць
З нас уздымаецца, бы кінуў хто валун
На дно ракі. Мы самі, самі — рэкі
І берагі. Ты — пачакай крыху,
Святая непатрэбнасць. Проста будзь.
Як дом, дзе адчыняюць чалавеку.
Не аддалі нічога мы, не ўзялі,
З усмешкаю на вуснах, ды з рукамі
Пустымі падыходзім. Што мы маем?
Жывыя рэчы, зоры, бацька, маці, —
Бярэм мы самі ўсё — і самі трацім.
І ўсё мы вінны сэрцу аднаму.
Жывому й непатрэбнаму. Яму.

*25 сакавіка 2006*



...Вымаві:

«Я — дублікат ключа
ад замка
Цемра — Святло,
электрычная іскра
між рук закаханых,
заснежаны пляц,
дзе ніколі не будуць
расстрэльваць людзей...»

Толькі лебедзі, лебедзі, —
гэта ім не падстава
спусціцца на возера тое,
дзе цёплыя плыні
зрабілі чыстай прастору вады
ад лёду,
менавіта на гэтае возера,
дзе
іх чакаеш.

Дзе іх прыстанак часовы?
Дзе смага спыніць.
Не чакай сабе
узнагароды, —
хай ты светлы,
як пер'е ці снег.

*11 сакавіка 2006*

# Нібы карціна

Кветка для зімы тваёй мадонны —
Сарваць ніхто не можа.
Я дзверы адчыню перад сабою,
Рукою не кранууўшыся дзвярэй.
Хай непаклі́каны, сюды ляціць Барэй,
Страсае на чало маё пялёсткі —
Тваёй усмешкі і тваіх вачэй.
Ляжу, ляжу — бы неба прасціралам.
Лячу, лячу — бы з-пад зямлі жураўлік
Усходзіць на вяршыні кветкі, і званчэй
За раніцу — ізноў святкуем замець,
Што ў садзе ля прачыненых дзвярэй
Сумёт пакінула, ты чуеш, Donna Vai?
З дрэў, з-пад лісця мы выйшлі, гэта вабіць.
Бяры мяне ў абдоймы, снег, — шпарчэй,
Чым непакінутых мая пакліча памяць.

*Сакавік – 4 красавіка 2006*

# Псіхея

У рукі нам кладзецца садавіна:
Салодкія й гаркавыя плады.
Ты ж набярэш у прыгаршчы вады,
Напоіш нас — і зробімся жывымі.

Хто сталы быў калі? Хто малады?
Мы станем бессмяротнымі тады.
І знойдзем лес мы, дзе самотны воўк
Ляжыць, і дзе стары мурашнік
(Пакажаш, у які нам рушыць бок),
Куды вядуць астылыя сляды
Паэта — а яму было не страшна,
Ад старасці памёр — не ад жуды,
Магілу знойдзем без крыжа...
Туды, туды?
Ці трэба нам смяротныя сады,
Сляды людскія — і сунічны Бог
На некранутых могілках бацькоў?
Ці скажам хоць пра што — алаверды,
Як станем бессмяротныя, тады?..

*6–7 красавіка 2006*



Калі з вазона высадзіць расліну
Ў адкрыты грунт, то не заўжды яна
Там прыжывецца. Магма — дзе вулкан,
Цякуць спакойна рэкі — дзе раўніна.

Намульваць ногі перасталі боты,
Ды нешта іншае — прыслухайся — баліць.
Анучы спрытна ўжо намотваеш, і піць
Жаданне стрымліваеш на кідку паходным.
Радзіму ты бароніш, і — усіх?
Што ж, калі так — то уздыхні свабодна.
Дык, значыць, нас? Ды ёсць яшчэ загад.
Сапёрная рыдлёўка. І прыклад.

Сабе ты не належыш? Так, салдат?

*11 красавіка 2006*



Нам будзе проста праўду зразумець,
Калі яна адкрыецца — усім
Празрыста, ясна так — навідавоку.
Бы ў небе са святымі ўстане ўміг
Хрыстос — тады не зможам не схацець
Паверыць, адрачыся назусім
Ці каменем прыбіць ізноў — прарока.

*12 красавіка 2006*



Я сам сябе падвёў да краю,
Нібыта за руку — дзяўчыну,
Якая хоча быць, кахае,
Не знаючы прычыны.
Мне падаюць ваду ў далонях,
Кідаюць завушніцы
Пад ногі мне, нібыта — дотык
Мой быў на плашчаніцы.
Рухомы цень бароў — і вербаў,
Свіст салаўя, змяшаны з рыкам
У нетрах вепра, з лёгкім дымам
Змяшаны я — сплываю з ветрам.

*14 красавіка 2006*



У бессэнсоўнасці знайду сваю апору.
У тым, што слова падае, бы камень у ваду,
І ўсё знікае. Але я — іду.
Ёсць проста так — нізіны, рэкі, горы.
І ў ценю дрэва адпачне вандроўнік,
Глыне з біклагі. Сон яго агорне.

А той, хто звык усё казаць услых,
Цяпер — нібыта вырваны язык
З ужо нямога рота.
Крочыць рота,
І тыя крокі робяць непатрэбным слых
Да іншых гукаў — хто абуты ў боты.

І гэты міг, калі спадае ліст,
Вы лепш не параўноўвайце з палётам.

*7 траўня 2006*

# Ідэнтыфікацыя па голасе

Хунта — гэта заўсёды вясёлыя лычкі
На плячах салдат рэгулярных войскаў.
Зніжаюцца цэны
 нават у танных бардэлях,
І прадуктовыя карткі можна змяняць
 на патроны;
Таксама й наадварот. Іржа на бацькоўскай
 зброі
Будзе падставай для трыбуналу, пасля —
 расстрэлу
Падлетка год чатырнаццаці.
 Павуцінне ў зачыненых крамах
Цалкам магчыма ўспрыняць і як камуфляж.

Хунта — гэта істотнасць адмены
 жыццёвых планаў.
Ва ўніверсітэце — шпіталь.
 Ды ніхто не адменіць мора,
Шум яго хваль — і пясок на даўжэзных пляжах.
Жаданне выйсці на лодцы
 амаль што да
 далягляду
І выкінуць вёслы. Хунта — гэта свабода.
Свабода забыцца на тое, што значыць свабода.
А мы, хоць жывем у краіне,
 дзе мора замена — балота
І закасаныя рукавы
 непакояць сівых інвалідаў,
Пляцем сваю лесвіцу
 з доўгіх і тонкіх вяровак,

Затойваемся
і не адгукаемся
на пераклічцы.

*31 кастрычніка 2009*



На клавікордах — снег. Дажыць да сарака
Дзеля цікавасці. Між мора — і аблокаў
Яліны й сосны, што глядзяць
на дзюны,
Уборы годна захаваюць. Мы — пясчынкі
Ці горы, ці нябёсы — ўсё няважна.
Калі табе пад сорак, ты павінны
Бурштын балтыйскі у кішэнь пакласці.
Класічны лёс паэтаў
гэтак мовіць.
А хто прыхільнік поўнае свабоды
І не прымае штампаў ці клішэ, —
Няхай прыемных, як карчма на ўзлессі, —
Сабе той знойдзе покуль адпачынак
У іншым месцы; ўсюды, дзе магчыма
Рукою далікатнай вымыць твар
У лужыне, наўколенцы прысеўшы,
І рыбіну сухую раздзяліць, і куфаль
поўны
На той крыху падобнага бурштыну
З падобным на цябе
і непадобным.
Усё магчыма й тут. Ну а калі твае
Цікавасці у іншым палягаюць
(Аб чым казаць услых не выпадае),
Ты навядзі сябе, нібыта лінзу,
І ракурс выберы, адкуль відаць, што ёсць,
Чаго няма, і дзе адлюстраванне
Сабранага
у фокусе адным.

Спазніся на цягнік, — альбо квіток,
Які быў прызам, для другіх зайздросным,
Ты з пальцаў выпусці — няхай ляціць
між крат,
Куды бяжыць, нясе з сабою смецце
І хмаркі адлюстроўвае, і неба
Яна — з якой нарэшце ты супаў.

За спінай — лецішча пустое. Клавікорды.

*1–12 кастрычніка 2009*

* * *

Наша шчырае юнацтва
У падмурак пакладзе сябе.

Не папросіць, каб згадалі заўтра,
Не пакіне спісаных папер,

У бязважкасці яно пакуль лунае...
Да камення пад нагамі
не звыкае.

*23 траўня 2006*

* * *

сярэднявечча рэк
пісьмёны на пяску на дне
і жук-плывун

услухваюся ў слова: В у л а

цячэ марудней чым душа
у цела берагах

*24 траўня 2006*





Мы будзем гаварыць у калідорах,
Бо праслухоўваць іх заўжды цяжэй.

Мы любім у жыцці, што непаўторна:
Вось поле, лес; іх зменлівасць ярчэй
Паказвае для выцвілых вачэй,
Што ўсё ў жыцці падзелена на поры,
Перыяды. Узлётаў і вікторый,
Падзенняў, прорваў, пустак чарада...
Не ўглядвайся — чаго пасля шкада
Нам будзе? Дзе рака — не помніць мора.

Мы будзем гаварыць у калідорах,
Калі п а с л я мы будзем гаварыць.
І лямпачка асветліць нам аўторак,
На тварах час распішацца — аўтограф.
Калі й захочаш, то не зможаш змыць.

*Сакавік – 24 траўня 2006*



...Прывіды той планіды,
Рыбіны з Антарктыды,
Умерзлыя ў лёд, кладуцца на нашы шыбы,
Пераліваюцца сінім, зялёным паўночным
зззяннем,
Чорнай, срэбнай лускою, агністымі плаўнікамі,
Рыбіны з дзён дзяцінства, з друзу дзіцячых
цацак,
З пеўнікаў ледзянцовых, з марозіва першага
смаку, —
Прывіды той планіды,
Чаго не бывала нібы.

*2006*

# Кампучыя

пажоўклы чэрап і косці
ў труне збітай з бамбукавых жардзін
ложа вінтоўкі іржавае без прыкладу — там жа
твой жаніх якога забілі чырвоныя кхмеры
Кампучыя
вузкія вочы й рот з дакладнасцю выпісаны
бы Пабла Пікаса
ёсць такая краіна — // — чые балоты
й гіблая малярыя спякотныя дажджлівыя
джунглі дзе сцяжына за табой
зарастае за дзень а зарубкі на ствале
зажыўляе кара

пустазелле ў галовах правадыроў
і хто здыхаў за міску маісу

дзеці глядзяць на зямлю і неба —
сулоджжа бясполых істот
чырвань гліны й крыві
быццам сон алігатара чуйны й спакойны
гумавая калыхаецца лодка
і той хто схаваны на дне
помніць тваё імя — Кампучыя

і ўмее любіць

*8 чэрвеня 2006*

* * *

Чорны конь пасецца ў дзьмухаўцах,
У траве высокай — і бяскрайняй.
Дзікі стэп — далей; і дзень ачах.
Прыцемак, і змрок лажыцца тайнай.

Звыклых рэчаў — абарона; мур
Цішыні, якая не пустэча.
Чорны конь пасецца; я — скажу,
Што такое радасць і сустрэча.

*2006*

# Рэліктавы лес

дазваляю люстэрку бачыць
сны матацыклетка з люлькай на ўзбочыне
гравійкі дзе картаплянае поле
сям'я з трох чалавек: бацька маці й сын
пад цяплічным дахам іржавыя трубы
арматуры дождж поліэтыленавая плёнка
хавае ўсіх зазубрыны
разбі (ачысці) яечка абмакні ў соль разбі
цэлае расшпіліся адтуль бацька маці й сын
зап'еш малаком пах дзяцінства
вочы ўглядаюцца ў снег і ваду
неба
адгукнецца адно на лагоду прыязнасць
рыпучыя дзверы востры цвік прабівае
дошку старая шалёўка хаты
ўтульна спіцца жукам
дрываточцам
і гэты свет бы плацце
апранутае на голае цела
дзяўчыны хвалюе й пакідае ўбаку
розум і памяць аб канчатковасці
(людзі для якіх радасць пахне
адчыненымі вокнамі хуткасных цягнікоў
затуляюць вушы рэзкі невядомага
паходжання гук выводзіць іх з раўнавагі)
перапад тэмператур на вышыні сем тысяч
метраў і ніжэй выключае жыццё матыля
на паверхні ілюмінатара зацягне
нябачным ільдом

...але не здзьмувае вецер...
лакаматыў гісторыі спыніць
тваё дзяцінства разабраныя шпалы
іржавы гаечны ключ у траве чужое жалеза
пад цяплічным дахам размова
не шукаючы сэнсу пад небам голым —
калі складуцца ў карціну пазлы
і ніводны
не акажацца лішнім
і таго хто не вучань настаўнік чытае
першы верш

*28–29 чэрвеня 2006*

# Самапісец

Нібы
саракагадовая жанчына ва ўласнай кватэры,
мы
напускаем на сябе сур’ёзны выгляд,
абіраючы бульбу, расстаўляючы салаты на стале,
святкуем
дзень нараджэння чалавека з імем,
адпаведным пашпарту ў кішэні,
запрашаем гасцей;
але — помнім:
Дэталь (як частка цэлага) мусіць не выпадаць
з ансамбля, не пярэчыць яго размаітасці,
адцяняць асаблівасці таго, што за ёй:
сакаліныя пёры, вочы крата (ды іншае),
зжаўцелыя
голкі сасны пад нагамі, смала, прысталая
да кашулі (калі прыхінаўся да дрэва
плечуком); так. Ну, дапусцім, усё гэта ёсць
пэўны парадак, чарапіца, што абвальваецца
са старога й новага даху — адначасова,
развешаныя
на вяроўцы балкона станікі, — гарачае сонца
прасушвае іх хутчэй, чым гаспадыня
дойдзе да кухні; але цяжкасці
не ў пошуках сувязяў, вынікаў
і прычын, а ў немагчымасці злічыць
прыступкі на трэці паверх і не збіцца
аб збітыя калені,
нафарбаваныя вусны, —

усё, чым упершыню сустракаў свет,
калі мы, падлеткі,
падбіралі словы, якімі — вітаць;
...бы зноў — падлеткі, глядзім на
нераспакаваныя валізы ў прыхожай,
а нашы бацькі стоячы абдымаюцца пад абажурам
лямпы — без святла.
Займаючыся гукаперайманнем, аднойчы скажам
(дапаможа
памылка ў вымаўленні — нявыпраўлены прыкус)
тое, за што больш не дазволяць
закрэсліваць крыжыкам лічбы ў календары.
...Усё гэта пэўны парадак, які не сведчыць
ні аб чым. Што
браць пад увагу? Прымхі шафёра
перад выездам на трасу ці адмоўны
рэзус жанчыны й дзіцяці, страх
выкідышу, а найперш — за жыццё (сваё), аборт?
(Сабакам кажуць: апорт, апорт —
і гумавы чалавечак ляціць у
кустоўе, пераможца атрымае
пячонку і сэрца.)

...Што ж, родныя заўжды чакаюць
на іншым беразе чамусь...

Але рачны пясок
захоўвае выразны след нагі —
да першай хвалі.

*Ліпень 2006, Бароўка*

* * *

папарацць,
голас маці,

трымаеш перад сабой
паставу няіснай кветкі,

абяцанае,
не належыць нікому
жыццё,

бы ў нетрах «не»
ёсць «так»,

абняцца — ў голасе маці,

жыццё,
не абяцанае нікому,
належыць

п а п а р а ц ь

*22 ліпеня 2006*

# Песня табе

Вылічаны з твайго заробку,
Госпадзе мой, я твая капейка,
З непрыбытковых людскіх малітваў,
Ператвораны па жаданні,
Як таго захацеў аднойчы,
На дзявочае камізэльцы
Страказою зеленавокай
Адпачну я, складваю крылы;
І гляджу, як цямнее неба,
Як рыхтуеш свае маланкі,
І паўзу пад каўнер кашулі
(Светла-бэжавы колер ейны)
Ад дажджу як лацвей схавацца.
Вылічаны з твайго заробку,
Я заеду ў пад’езд пашарпаны
На сваёй гаспадыні юнай,
Ліфт падыме нас да паверха.
І пачую пах свежай кавы
У яе непрасторнай кухні,
І пабачу, як філіжанку
Спаласне пад вадой халоднай.
Толькі ў станіку й белых шортах
Пабяжыць басанож у ванну.
Пад струменем адкрые люстру,
Што яшчэ ад мяне схавана.
Потым будзе па тэлефоне
Шчабятаць аб сваіх навінах,
А герань на яе падваконні
Адчувае, што я ўжо блізка,

Выгінае свае сцяблінЫ,
Каб прысеў я ды пагайдаўся.
Тэлевізар пад выцінанкай
Ды гадзіннік мяне цікуюць.
Але што мне жаданні рэчаў,
Але што мне гайданне кветак,
І надвор’е з дажджом і ветрам,
Ад чаго прамакаць камізэльцы,
І бутэлькі на ўсіх паліцах,
І памыты бліскучы посуд,
Калі ўжо мне пара вяртацца.
Госпадзе, я твая капейка,
Паглядзі, як зямля чарнее
Пад зялёным кустом парэчак,
А вакол некрануты дзёран,
А на лаўцы, што збітая з дошак,
У шчыліне, што паміж імі,
Мурашыны шкілецік мёртвы.
І — засохлыя пацеркі ягад
Там, на голлі, па-над кустамі,
Што чакаюць свайго марозу,
Што чакаюць, як гаспадыня
Да мяне завітае ў госці.
...Калі я абярнуся іншым,
Паскідаю сухія крылы,
Страказіны бязважкі трупік.
Госпадзе, я твая капейка,
Ты падай ёй мяне, як лішак,
Будзем мы да вакна падыходзіць
І глядзець
                    на дом з белай верандай,
Як суседзі кладуць на дрэвы

Целы доўгіх жалезных лесвіц.
Будзем ведаць, што знае корань,
Ліст барвяны — і ліст зялёны.
Будуць пліты цяплець ад сонца,
Будуць нашы сухія вусны
Забывацца, што значыць смага.
Госпадзе, я твая капейка,
Маці моліць аб здароўі сына.
Ты пайдзі ды купі цукерак,
Адпачні на сваіх аблоках,
Што падобны да рыбін дзіўных.

*2006*

# Старыя рыфмы

Мне ёсць куды пакласці камень.
І тая шаля пераважыць,
Дзе ўсё, што сэрцу даражэй.
Дзе змрок начэй, святло вачэй
Па-над хвілінаю маўчання
І той парог, які не мог
Пераступіць пасля дарог.

Хто ля падмурку лёг, скажы?
Каму марудныя смаўжы
Халодзяць твар, на вочы дым
Лісця прыносяць мурашы?
Спаткай мяне — у лепшы дзень,
Дзе б'ецца ў шыбу авадзень,
І дзе прагорклае віно
Мы выплюхнулі з чар даўно.
Хацець вады, хацець святла,
Неадзінокага жытла,
Жывой размовы між людзьмі
І пасму, што сваймі грудзьмі
Зацiснем мы — так, тую пасму
Тых неслухмяных валасоў,
З каронаю якіх не страшна
Было разбіцца аб любоў.

...Псіхея, чуеш? Паглядзі,
Як аджывае — хто ляжыць,
Абмацвае далонню камень,
А потым — як ламае шалі,
Якімі важылі святло

Бацькоў, каханых — і сыноў,
Дзе мальваў зыркія агні
Глядзелі ў вочы дабрыні,
І вось — ён забірае іх
У гэты ж дзень, у той жа міг,
Пакінуўшы — без вызначальных слоў —
Сабе — каханне і любоў.

*21–22 жніўня 2006*

## Сёння ўначы

Выразны сон мне сніўся ноччу:
дарога ўніз вядзе, з пагорка,
а паабапал яе — аднапавярховыя
дамы, прыватныя сядзібы.
Я ведаю: у адным з іх жыве
мой былы сябра, з якім мы рассталіся
ўжо даўно з-за маёй шчырасці, якую
ён мне не змог дараваць.
Ужо вечарэе, і змярканне кладзе
на мой твар шараватыя цені загару. Я ведаю:
нада мной неба, месяц і зоркі, але
я не падымаю галавы. Паветра нібы
няма — як заўжды ў сне, не адчуваеш,
як удыхаеш яго.
Срэбны пыл на ботах маіх,
кроплі расы ад туману
аселі на рамяні заплечніка.
Я падыходжу да агароджы: там гуляе
дачка майго былога сябра, ідзе сцяжынай
да дома ягоная жонка.
«Не трэба нічога тлумачыць»,—
чую ўнутры сябе голас, якому належу.
Пчолы ляцяць да вулляў — ды дзе
тыя вуллі і дзе тыя кветкі,
што абцяжарылі іх сёння мёдам?
Шмат дрэў у тваім садзе,
нерухомая кветка, што над усім цвіцеш,
ды навошта даваць імёны ім? Я
паварочваюся і іду ўніз, з пагорка,

па ўзбоччы дарогі, забіраючы з сабой
непрамоўленыя словы, адно з якіх калісьці
абмываў слязамі душы:
даруй.

*18 верасня 2006*

* * *

Не будзь са мной
Такой святой —
А будзь халоднаю вадой.

Ты паглядзі мне ў светлы твар —
І над табой я не ўладар.

А хочаш быць маёй рабыняй...
Ну што ж — сваё мне
сэрца вымі.

Тады я стану — толькі твой.
Жывы — з халоднаю вадой.

*22 кастрычніка 2006*

* * *

Не паспеўшы згадаць у сне пра сваю таямніцу,
Абуджаюцца ў цёплым ложку. Тэлефон маўчыць
на паліцы.

Сонную кветку хаваючы пад спадніцай,
Яны спяшаюцца ранкам. Да грудзей прыціскаюць
скрыпку
У пашарпаным футляры ў цесным вагоне метро.
Локан — бы вензель на шкле заінелым, таўро
Нечага неназванага. Ды гэта — на шкле ў трамваі.
Тут, пад зямлёю, падобнага не бывае.
Выкіне на эскалатары хутка цябе — наверх.
Хтось незнаёмы імгненна побач прабег,
Закрануўшы тваю руку скураным крысом.
Нібы падзяліўся сваім — проста так — цяплом.

...На перапынку ты маеш час — і кароткі сняданак.
З тэрмаса наліваеш гарачую каву.

Дзелішся з хлопцам, з сяброўкай. Снедаць адной
нецікава.

Раскладваеш сшыткі; гармонія — наступная пара.
...Твая безразважнасць — дым, непрыкметная восень, —
Нешта нам дадае. Прыступкі — і сем, і восем —
Злічыш і станеш, бы клён, — жоўта-срэбнавалосай.
Свет — ён праводзіць цябе да твайго каштана,
Ён падшукае месца, дзе будзеш прынята, пазнана.
Ён прачытае ўсе ноты ў сшытку тваім, Мар'яна.
Але — ты б хацела, як ёсць. Не быць
кімсьці абранай.

*3–6 кастрычніка 2006*

# Катрэн

Ён ляжыць на падлозе ў трыко
з выцягнутымі каленьмі.
На кухні — жонка гатуе
смачныя ўсім пельмені.
Дачка — нешта будуе з кубікаў
і кліча яго па імені.
А ў кагосьці — астылыя пальцы
і сэрца ў срабрыстым інеі.

*25 кастрычніка 2006*



*В.*

Навокал святлее, але гэта не дзень.

Нешта змянілася — дарэшты і беспрычынна, і незразумелая радасць напоўніла мяне. Золкія, чорныя вокны дамоў сталі адно за адным запальвацца, і хай яны чужыя, хай! Нешта ўва мне нарадзілася, і цёплыя, шчасныя словы зрываюцца з языка, і на маім швэдры неацэннымі ўзнагародамі застываюць сняжынкі.
...І гэтак жа было, калі я вымольваў цябе, выстойваючы кожную нядзелю вечарам трохгадзінную службу...

Навокал святлее, але гэта не дзень.
І адвагі спакойныя вочы глядзяць мне ў твар.

*13 лістапада 2006*



Я адцяняю радасці зямныя
Самім сабою. І ясней дажджу
У люстры лужын падаць, як гляджу
На гэта я. І ветру лёгка дзьмуць,
Калі рукой я дакрануся шыі
Сястрой пасаджанае вішні маладой,
І абсыпаць пялёсткі мне на твар. Мне — і яму,
Таму, хто ёсць са мною — разам, побач.
З ім горкае гарчэй — і непаўторна слодыч.
І свет належыць нам — як аднаму.
Я словы аддаю — яму. Каму?

*28–30 лістапада 2006*



Абмежаваная прастора
не засціць
зорны далягляд.
Дзе апынецца астранаўт,
мінуўшы працяканне года?
З нас кожны — антыкварыят,
пейзаж на поўні, квазімода,
ў пустыні кінуты атрад
без кіраўніцтва. Ля астрога
стаім на варце мы пустога.
Пясок у бутлях, смагі сад.
І атуляе цень лаўровы
асірацелы цыферблат.

*28 снежня 2006*

* * *

...Тое, што размыкае кола,
Ёсць ува мне.
Белая вежа ў полі.
Цень на драўлянай сцяне.
З яблыкам нечарвівым
Ноч падае далонь.
Нічым я
не асаблівы.
Сам па сабе. Агонь.

*5 красавіка 2007*



Вадой іржаваю напоеныя кветкі
Пажоўклым цветам скрышацца няўзнак.
Бяздушнае — бы запытання знак —
Стаіць за спінай, просячыся ў сведкі.
Але — не трэба нам. Мы проста бавім час,
Бы Мадыльяні, што малюе на сурвэтках.
Там чыстая вада... Не вяне кветка...
Няма чужога, так. Няма, што не для нас.

*2007*

* * *

Мне падабаецца быць свабодным,
Даволі прыгожым
і старамодным,
З чорным вінілам,
цёмным кагорам,
Светлай кашуляй
і лабрадорам
На ланцужку на шпацыры павольным.
Мне падабаецца быць незалежным,
Крыху несур’ёзным,
а часам і смешным,
І, за руку падтрымаўшы дзяўчыну
На прыступках трамвая,
бы з аблачыны
Спускацца на дол, дзе мой парк
і пенаты,
Дзе ў пене шыпшыны я
невінаваты.

<...>



Словам не разгайдаць прастору, і мы не азначаем грэх у перакладзе са снегу. Гэта — рознае, але — два бакі аднаго медаля, які ўручаюць таму, хто адразу знікае з твайго (нашага) далягляду. Мы — выпуклыя вочы рыбіны, што глядзіць у туман наваколля, мы — хутчэй з-пад карэння, чым з вышынь, ясны неаднастайны пейзаж, трава і калянае лісце, дзе ступалі дзявочыя ногі, што звужаліся да суквецця, яшчэ — разбуджаны (паснулы) вулей — у залежнасці ад тэмпераменту (устаўляюць навукоўцы мудрагелістае слоўка), цыкламены альбо фуганак, — проціпастаўляеш тое, што не нясе ў сабе пярэчання, — прыгажосць і карысць. Не будзем аспрэчваць старога Фрэйда, пажадаем яму (а лепей сабе, бо ўсё ж нам патрэбней), —
так, яму й сабе — немагчымага,
што сталася б выратаваннем і ад бязвер'я ў дваццаць, і ад інфаркту ў трыццаць восем, і ад злаякаснай пухліны ў шэсцьдзесят пяць: вярнуць пачаткі й канцы, злучыць першую й апошнюю нітку матчынай вышыванкі — адчуць сваё д з я ц і н с т в а як падарунак сабе самому, а не яшчэ адну старонку ў доктарскай дысертацыі псіхааналітыка.

...Мы збіраем сваё — грыбы, ягады, дні, ужо нашы кошыкі поўныя, трымціць у чаканні лязо нажа. Але — хай спеліцца маладая грыбніца... Адкрываю адкрытае — востраў ці кнігу, але там няма засечак на ствалах сосен, не загнутыя ражкі старонак. Адкрываеш сваё — імкнецца ўглыб атожылак ад ссеча-

нага велікана, з нетраў цячэ насустрач засмягламу патаемны ручай. І хай не адамкнецца ў цёплых далонях мідыя, і хай сплываюць дзявочыя сэрцы на белых катамаранах, — любяць прыгожае, хоць і не вельмі шмат сэнсу ў гэтым над чорнай вадой, дзе на глыбіні ляжаць у заіржаўленай машыне шкілеты цэлай сям'і, —
бо заўжды мы прыносім нешта, нават калі
рукі пустыя;
і адно з бясконцага мноства — магчымасць
абняць.

*2007*



Калі я співаў французскую песню,
вецер зашамацеў
ссохлымі лістамі ссечанага дрэва
і зялёным лісцем на голлі жывым.

Але гэта было не рэха.
Калі й святло, то не зоркі — сонца.
Вачам, каб пабачыць святло вачэй... —
Гэта цяжка ў цёмным пакоі.
Значыць, і мы
жывем адбітым святлом,
родныя Каменя-Поўні?
Шкада, калі так.
Бо рэха змяняе голас
да непазнавальнасці.

Значыць, даверлівасць перш за ўсё.
Дзіцячая шчырасць.
Гатоўнасць верыць на слова.
Але да выслоўя
«вера ў людзей»
гэта не мае
аніякага дачынення, ведай,
дзяўчынка-хлапчук.

*Жнівень 2007*



на ноч восень мая дачка
вострым каменем зрэжу сцябло
поўнае бярэмя каласкоў палічаць жорны
зерне ў муку
табой спечаны праснак як прычасце
раздзялю на абодвух каліва бессмяротнасці
разгарну старонкі старажытнай кнігі
чыстыя ўнутры лістоў пад веялкай часу
толькі літары старога алфавіта
ператлумачваюць нас па-свойму бы дрэвы ў полі
аглядаюцца засяваюць прастору неаддзельнае
слова
«таполя» ад таго што не назавеш «прадмет»
маці падобная на дзяўчынку з табой за руку
ідзе па сцяжыне бачыш:
нарэшце вы разам — усё і нічога
наталяешся без смагі атуляеш маці сабою
глядзяць на абодвух зрэнкі — дажджы

*2007*



Я падаю на дно тваёй ракі.
Маўчанне побач. Я не гаваркі.
Цяпер, бы рыбіна, на глею камякі
Гляджу адсюль. Празрысты цень нябёс,
Шчупак і вусень, вусны і мароз.
Мне збудавалі дом, ды навырост
Кашулю шылі. Прамінае год,
Нібы за кавай жалудовай — ноч;
Пясчынкаю на жабрах карпа, ў сховах
На дне, дзе глей, дзе нат не сняцца зоры,
Дзе спім — не спім, дзе веямі гаворым.

Ды моль у куфры з’ела футра, так.
Гаворыш ты — так прамінае час,
І гэта — вынік. Усміхніся! Ах,
Як я люблю, калі ўсміхнецца страх
Майму палёту, даху, з апранах
Душы адпушчанай на дваццаці вятрах.

Губляе праўда перыйкі свае,
Чым красавалася, ды — годзе. Настае.
І ні аб чым нікога не пытае,
Бы проста — паралельная прамая.
Масткі над рэчкаю, субота і чацвер,
І піць ваду прыходзіць шэры звер.
А тут, на дне — каменьчыкі са жмені.
І пустаце не дзівіцца
прамень.

*2007*

* * *

Сляды тваіх лыж замятае
сіберны вецер
Усё што ты зведаў знутры
непрыдатнае рэху
Пакуль не правёў па люстэрку
алмазным пярсцёнкам

А дождж
не адліўся ў твой крок
недзе звонку гаворкі

*27 кастрычніка 2007*



Каб ведаў дуб аб тым, як будзе пахнуць
Яго паленне, ён бы не шумеў
Сваёю кронай паміж іншых дрэў.
Задумаўся б, і можа б захацеў
Вярнуцца ў парастак, у семя, ў дзень няясны.

Пазбаўлены я гэтай долі шчаснай,
Што мае ён. Няведанню пяю
Цяпер хвалу кароткую маю,
Аднак жа — азірнуся нецярпліва:
Калі наш Час ёсць толькі паштальён,
Чым пахне ліст пасля агню? Імён
Нязбытных не прыпомніць снегу мліва.

*2007*

# Перыяд

1

Абмежаванасці не схібіць,
Дзе памыляецца мастак.
Яна заўжды здалее выбіць
Сабе мясцінку на мастах,
Пантонах, лесвіцах, — калі
Узровень вырасце вады.
Калі не ўратаваць раслін,
І падымаюцца ў галіны
Высокіх дрэў усе звяры,
Што здольныя ствалы асіліць.
Мастак заняты быў пейзажам.
Ён фіксаваў, як падаў цень.
Сабой
          асветлены
                         прамень
Не пагасаў над даляглядам.

2

Цвярдзее покрыва надзей.
Давайце схілімся ніжэй
Не перад кімсьці... — Перад нечым,
На чым стаім, пра што маўчым,
Ізноў — як быццам гледачы,
Забыўшыся па-чалавечы
Сваё імя. Прасочым шлях
Звычайных сонечных праменняў
Па кронах дрэў, па каранях.
Не станавіся на калені.

Рабром далоні правядзі
Па падбароддзі той, што побач.
Сябе самога ты наймі
Пажыць, як гэта мора просіць.

3

Рыдлёўкай высеку квадрат
Я з дзёрну. Раскладу цяпельца
На месцы тым, дзе мне зямля
Малое адкрывае сэрца.
Я помню: «Саступай лыжню!» —
Крычаў, ды ў вузкім павароце
Не абагнаць было гайню:
Падпарадкоўвалася плоці.
Ды потым... там пайшоў накат,
Я першым выкаціў на фініш.
Мяне пазнае далягляд.
І ён не пойдзе за другімі.

4

Але: адзіныя — адны.
Да той пары, пакуль не схібіш,
Пакуль вясёлкавыя сны
Распасціраеш над другімі.
І — ува ўсім, заўжды — герой,
Свой шлях ніколі не зыначыш,
Не абмінеш сваёй нагой
Ты кветкі сціплае Няўдачы.
Датуль — пустыя іх дамы.
Датуль адзіныя — адны.

*2006 – 30 кастрычніка 2007*

# Нямецкі верш

уздоўж аўтабанаў маленькія гарады
кавярні схаваныя ў змроку вячэрніх вулак
матэлі
гарачая як глінтвейн чужая мова
язык коўзаецца ў роце датыкаючыся да зубоў
вымаўляючы ich Liebe dich
вось яна —
перавага адсутнай радзімы ў ветлівых паліцэйскіх
так і хочацца трапіць у пастарунак
цалуючы незнаёмку ў старэнькім «Паршэ»
тлумачачы хто ты такі
без слоў

мілагучныя родныя словы пакінь у гняздзе
дзяцінства
мая кашуля зацыраваная на грудзях

*1999*



Па-сяброўску кранулася дрэва пляча,
калі я глядзеў у вакно.
Там — вечар зімовы.
Вечар зімовы,
а тут, побач са мною, — зялёнае дрэва
ў цёплым пакоі,
хатняе дрэва ў кадзі з зямлёю.
Я гляджу ў вакно — там
я таксама.
Пазіраю ў зялёны пакой —
непалітыя кветкі ў вазонах
просяць вады.
Я прынёс ім вады.
Адчыніць, покуль лёдам не стала,
трэба дзверы.
Там стаю — за вакном, за вакном.
А са мною ў сукенцы зялёнай —
Вясна
і сястра яе Вечнасць.

*18 снежня 2007*

# Размова

— Напрыклад, гэта дождж.
Але скажы мне, ноч:
Ці выкупіш мяне ў святла ліхтарняў,
У радасці, падоранай віном,
У мілай, што стаіць, бляднее тварам,
У рэк, што свой не спыняць крыгаход,
У тых лясоў, што вартыя пажараў?
— А ці не ты даўно прыклаў руку
Да камянёў, цаглін, да тых абшараў,
Якіх не зведаць іншым на вяку?
Ты любіш — праўда ж, так! —
заплюшчваць вочы,
Губамі пазнаваць
бязважкі снег,
І бласлаўляць сабою цемру плошчаў,
І свой палёт, і свой сляпы разбег...
Я здольная
і вартая — ты знаеш, —
Каб вымыць твае ногі, і ваду —
Адным глытком... Нашто варожыш маем,
Ці вартая цябе, што лічыш за адну-
Адзіную? Глядзіць ліхтар з-за кратаў.
Мы павянчаныя, дык годзе ўжо лічыць
Сябе за тога, хто... нібыта вінаваты
Камусьці лёс! Сябе пасмей
пражыць.

*23 студзеня 2008*



Пакуль яшчэ сонца не зробіць кола
І поўны прыпол травы,
Нічога не значыць слова «ніколі».
З гаючае крапівы
Звяжы мне швэдар — са свежай, датклівай,
І з руж ускладзі вянец,
Шыпы не прыбраўшы; я стану шчаслівы,
Нібыта святы айцец,
Які, мінуўшы чырвоныя макі,
Спыніўся на той вярсце,
Раны найлепшага друга — сабакі
Жывой аддае вадзе.
Сабакі, што лёг пад гэтыя макі
За плугам у баразне,
І кроў на далонях праступіць — знакі?
Наступнасць, што прэч ідзе?
Нашто валасоў мне тваіх карона,
Грудзі, схаваныя ў ноч,
Калі ты скарынку нясеш да трона
І слёзы зялёных воч?
Мне трэба не дар, а пастка для сэрца,
Куды я самохаць іду,
І прага сустрэцца, а не саграцца, —
Забыліся на зіму.
...Ласку маю — недасяжныя вежы
Вандроўніцы — мроіш піць
З вуснаў маіх, нібы слова ў мярэжах
Срэбнага верша згубіць.

*2008*



Жук у чаўне плыве,
у чаўне, зробленым рукамі дзіцяці.
Жук, што ўмее лётаць,
але не хоча пакінуць хісткі
човен. Дзіўных уражанняў рой
(быццам пчаліны) кружыць над ім,
а хуткі ручай з ледзяною вадой
нясе імкліва, так, што дрэвы
зліваюцца ў зялёную плынь, жук,
чорнае бы лакіраванае крылле, жук,
істота без розуму (як думаў пра
яго нібыта вянец прыроды),
жук падпаўзае да краю чоўніка
(для яго човен), кранаецца вусікамі
вады, працягвае шлях па эліпсе,
па перыметры карабля, даследуючы
ці ўсюды тое што ёсць
перад ім,
набліжаецца каменная плаціна, праз
якую вада цурчыць, рыбіна ходзіць
глыбока глядзіць бы з дна Марыянскай
упадзіны ўверх, сын — празрысты малёк —
як ты трапіў у холад крынічны,
з якіх віроў, глядзіць на жука,
што перагінаецца цераз край,
карабельчык кідае на камяні, ён
спынены ў хісткасці раўнавагі, жук,
жук-вандроўнік, малёк у крынічнай
вадзе (альбо ручай) не помню памяць
мурашы рупяцца сёння і заўтра,

цяпер я прыйшоў паглядзець як вандроўнік
перапаўзае па саломінцы кінутай
імі (істотамі без розуму) на бераг,
папраўляе крылле, пазногцем перавярну
ізумруднае брушка рабрыстае, варушыць
ножкамі, бездапаможны, падстаўляю
палец паўзе, спыняецца дзіўная
цеплыня чалавечага цела, моцна трымаецца ён,
распраўляе крылле, бярэ мяне ў свой
самастойны палёт, вада без жоўтага
колеру над белым пяском, так нячутна
й празрыста, што сэнс, як гульні
твае, хлапчук, падступае блізка,
уцелясняецца ў любую істоту,
што глядзіць у ваду, але не ў Нарцыса,
не.

*18 лютага 2008*

# Творчасць

метраном унутры
перадаецца твару
што хочаш сказаць
і н ш ы я
ўмеюць чытаць па вачах
а ты пра сябе
лічыш
«дзевяцьсот трыццаць чатыры»
цень усмешкі на вуснах
браня

*18 лютага 2008*

* * *

...І, можа быць, адзінае ў вярсце
Зямной юдолі трошкі расчаруе:
Ніхто тваёй крыві не патрабуе
Для подпісу на скрэсленым лісце.

*Люты 2008*



Мой белы плашч
завей
накіну я табе на плечы.
У лесе хатка ёсць, туды няма сцяжын,
няма сцяжын.
Там кожнай ноччу шыбіны трымцяць
ад ласкі ветру,
Шмат волі і жыцця таму, хто ёсць адзін,
хто ёсць адзін.

Ды толькі той, хто быў адзін, а быў ён вольны,
вольны,
Узважваў, перш чым браць, цану ўсяму,
цану ўсяму.
І кожнай з тых, што прагнула пазбавіцца
ад болю,
Сагрэць свой зрок і слых, ён будаваў заўжды
турму.

А праўда ў тым, што ува ўсіх каханнях нашых,
нашых
Мы любім кветкі й водар раскапанае зямлі,
І дзелім золата курганнае на пляцах, пляцах,
А золата калоссяў на палях над кветкамі
ў раллі.

Ялінавы палац шуміць ізноў над нашай хаткай.
Арэшкаў кедравых з заплечніка дастань,
віно і мёд
Дастань таксама, ну а я
старою лыжнай палкай

Папраўлю дровы ў печы, і тады
трохсотгадовы лёд

На нас блісне́ са столі перламутрам,
перламутрам,
І мы згатуем чай з табою,
растапіўшы чысты снег.
І мне ты скажаш, што жыццё для сэрца —
путы, путы,
Калі няма каму аддаць яго,
з ім падзяліўшы смерць.

Мой белы плашч
завей
накіну я табе на плечы.
У лесе хатка ёсць, туды няма сцяжын,
няма сцяжын.
Там кожнай ноччу шыбіны трымцяць
ад ласкі ветру,
Шмат волі і жыцця таму, хто ёсць адзін,
хто ёсць адзін.

*1 красавіка 2008*



клямка перавязаная хусцінкай
пазначае тваю прысутнасць
у краіне дзе восень пачынаецца ўвесну
дзе жоўтыя цягнікі
губляюць рэйкі ў палях марудна
спыняюцца іржавеюць
адлюстроўваючы захад сонца
шклом запыленых вокнаў
гэтая хата дзе прадметы гавораць за нас
болей чым нам хацелася б
келіх надтрэснуты і неадпіты пусты
неглыбокая студня схаваная ў ценю клёна
праглядаюць
лапаткі твае з-пад адзення
нібыта крылаў зародкі
худая — амаль да кашчавасці — ты
цяжкая рама люстэрка
павернуты да сябе фотаздымак
усмешка якую не зрушыць
так хацелася б мовіць:
ты — роўная слову
потым — векавечная радасць маўчання
якая бывае пасля жыцця
пры жыцці

*Травень 2008*

⁂

Сцябліна ўздымае кветку —
паглядзець
за агароджу.

*Ліпень 2008, Камянец*



Адзіночная камера. Снег
Цераз краты заносіцца ветрам.
А разбітая шкліна — на дне
Студні той, што атручана светам.

Там, на вуліцы, — спяць па чарзе
Дзве таполі, вартуючы шчасце.
Не здзіўляйся, не смейся. Грызеш
Свой уласны ашыйнік дачасна.

Як цагляныя сцены абжыць
І злучыць прад сабою далоні?
Ты адчуй: з непадсудных вяршынь
Блізка праўда, бліжэй — беззаконне.

Чуеш — недзе мячом скураным
Правяраюць хлапечую веру.
Хлопчык мой, ты пенальці вазьмі! —
І сваю чалавечую меру

Там, дзе рэха маўчання вяршынь —
Ёсць яно! — ты адчуй, незламаны.
*Тут няма дзе прыткнуцца душы,* —
З гэтым ты не згадзіся, падманам

Палічы. Моцна б’юць па мячы.
Кожны крок да сябе — пралічы.

Нехта скажа — дзе Боскі агмень?
Адкажу — уздыміся з калень.

...Ну а той, хто напіўся вады
Самай чыстай, — казаць пазбягае.
Слова згубіш — на дне нематы.
Уваскрэсне? Памрэ? Я не знаю.

*2008*



Там, за вокнамі, — холад імглы.
Там, за вокнамі, — нашы дамы.
Цёпла тут — але трэба ісці.
Хтосьчакае ў шумлівым трысці.
Хтось чакае за сцежкай глухой,
Дзе балота і гаць, за ракой.

Мы з табою глядзім з-за акна
Зоркі нашай, з азёрнага дна.
З пацалункаў і кніжных радкоў.
Крык птушыны — нам голас бацькоў.

Нам ласкавасць — застацца на міг
І пабыць хоць стагоддзе ўдваіх.
Нам пагарда — рукі не падаць
І вады, што даюць, не прыняць.

Нас растворыць прастора, бы соль.
Ойча наш, смачна есці! Дазволь
Толькі родную хату знайсці
Пад кустом, на траве, у трысці.

*21–22 ліпеня 2008, Бароўка*



Дрыжыць вады люстэрка. Я люблю
Знайсці крыніцу, што ідзе ў зямлю
І потым выйдзе зноў, цурчыць між дрэў,
І я на слых шукаю ейны спеў.

Хто п’е з далоняў матчыных, чужых,
Хто п’е з лістоў таполяў дарагіх,
Таму ёсць падарунак — немата
Міжзорных падарожжаў для крата.

Я ключ не падбіраю — ад дзвярэй,
Ад змроку ацяпляльных батарэй,
Ад рэха ў збане з кветкаю — пустым,
Ад той спагады, чый спаборнік — дым.

Ёсць тумблер унутры — пераключы,
І ты не будзеш плакаць уначы.
Так ува сне я націскаў педаль,
Калі я спаў з табой, цеплацэнтраль.

*8 верасня 2008*

# Тастамент

...Так сіні жар надзей
зграбае вечар
У скрынку чорную
да вугальнай начы.
І я кажу памерлым: да сустрэчы!
Вугельчыкам малым
дзяўчынку апячы
Хто здольны з вас? Яе худыя плечы
Сагрэць рукой няіснай уначы?
Ізноў шапчу памерлым: да сустрэчы...
Хай буду здольны я
прыйсці, перамагчы.

*8–9 верасня 2008*



Не закладзена столькі ўва мне,
Колькі просіш аддаць.
Быццам ты мне другая маці,
І цябе мне любіць і кахаць.
Не закладзена столькі ўва мне,
Колькі просіш аддаць.
Хіба толькі — жартам абняць?

Хіба толькі — з табою прыспаць
Навальнічныя грукат, маланку,
Дождж у садзе, над хатай — і ранкам
Абламанае вецце — прыбраць
І за хатай спаліць. Так, прыспаць.

Тут, наяве — жывыя галіны.
І такімі застацца павінны.

*9–12 верасня 2008*



Я губляю ключы на дарозе, я снег уначы.
Пратакольная скупасць падзей,
чый адбітак на твары.
Я прысутнічаў там, дзе над целам
маўчаць урачы.
Бесстаронні ліхтар, што свяціў
на забойцу й ахвяру.
У бязрукіх заўсёды нам хочацца
нешта забраць.
Падарыць, што мы лепшае маем,
патопленым лодкам.
Здольны той дараваць, хто на арфе
жадае іграць?
Хай знясе гэты бруд, што між нас,
веснавая паводка.

Ёсць шырокія вокны, высокая светлая
столь
І чаканне гасцей, і пірог, што спякла гаспадыня.
І ў сяброўскай бяседзе
прысвойвае ролю, не боль, —
Хтось, нібы гаспадар, шчодра дзеліць
паспелую дыню.

Гэта шчасце размовы, імгненняў
раскута-жывых,
Дзе анёл светла-русы пагляд не хавае
насустрач.
Гэта чырвань віна — і мелодыі сонечны ўздых.

Гэта вочы — і грудзі маленькія,
грудзі і вусны.

Я губляю ключы на дарозе, я снег уначы.
Я на косах цяжкіх заміраю
маўклівай каронай.
Прывітанне ад тых, хто з сабою
забраў далячынь,
Хто ніколі не быў памагатым
і служкам Харона.

Я губляю ключы на дарозе, я снег уначы...

*18–22 верасня 2008*

# Прароцтва

Я сагрэюся ў мёртвых далонях царэўны,
Раскажу сваю казку адчыненым вокнам.
Хай раскідвае вецер пялёсткі, пялёсткі.
Веру толькі ў прыдуманых казак праўдзівасць,
Веру ў бледныя твары, у тонкія рысы.
Што ўвесь час пазіраеш ты ўніз, на дарогу?
Будзе светлым твой лёс, і адзіным абраннік,
Калі толькі адзіным абраннік твой будзе.
Будзе светлым твой лёс — і шчаслівай дарога.
Знаю я, што бывае й на мыліцах шчасце.
Быццам ягель — алені, мы нешта шукаем.
Старадаўні дукат не зайздросціць манетам,
Што на шчасце пакінуць турысты ў фантанах.
Слова з вуснаў тваіх вецер знёс непачутым.
Толькі лёсу такому, павер, я зайздрошчу.

*23 верасня 2008*

# Пасля патопу

Пад плітамі на могілках — труна,
А пад ёй — зялёная трава.
Дрэвы і дамы, яшчэ — трамваі,
Што звіняць на кожным павароце.
А пад імі — зноў пліта, труна.
Што яшчэ? Гербарыі, пялёсткі,
Кветкі, карацей. Імёны — ружы,
Васількі, герберы, цыкламен.
А на ўсім, на ўсім — марская соль,
Водарасці, высахлыя ўрэшце.
Побач, блізка — мачты, карабель,
Пацукамі згрызеныя вёслы.
(Значыць, штось жывое. Пацукі.)
Вёслы — карабельныя? Галера?
Потым — могілкі, дзе маладзенькі сад.
Пліт — няма, а значыць — там габрэі.
Пейсы, тора — я не знаю слоў,
Роўных тым, што сцёртыя з граніту.
Для сваіх, напэўна, хтось патрэб
Іх пабраў. (Так, я кажу пра пліты.)
Сцёр імёны, што былі на іх.
Страта — след. Нароўні з пацукамі
Хтосьці, значыць, ёсць яшчэ жывы.
(Пласт такіх часоў, якія побач.
Зрушылася нешта ў глыбіні.)
...Ровар, на якім
хлапчук імчаў,
Двор — і незнаёмая жанчына,
Што дала яму папіць вады. Вады.

Зверху ўсё — занесенае ілам
Ды пяском. Дык, значыць, гэта — дно
Акіяна, што прыйшоў на сушу,
А пасля, як бачыш, высах сам.
Ты глядзіш — не з зоркі на Зямлю,
Ты — душа, што ў пустаце шукае
Хоць якой апоры — ды анёлаў
Адляцелых... Разам — пацукоў
І таго, хто з пліт магільных словы
Сцёр аднойчы. Зрушыў — дык пастаў
Ты на месца, што было калісьці, —
Так, напэўна, думаеш, душа?..

...Так дарэчы
страчанае
цела...

А ці лётае, скажы, над гэтым Дух
І малітва — творыцца
ці змоўкла?

*26 верасня 2008*



існую
нібыта ад геліятропу аддзелены пах
світаю і змяркаюся за вокнамі
здзімаю з хлопчыкаў-клёнаў і сталых
жоўтыя парыкі — рана старэць
(але гэтая ўсмешка з прысмакам жоўці)
узлятаю на гелікаптэрах скрозь цясніну
дзе свецяцца снежныя шапкі гор
спускаюся ў даліны пятля ракі
абдымае дамок абкружае атара
таго хто спусціўся з неба
Ахіл у бронзавым абутку нацягвае лук
часу гарлавіна збана ўстаўленая ў струмень
пяе горны ручай
у голасе птушкі знікае сухасць калі
не надаеш свае рысы
сцяжыне якая абсыпаецца пад нагамі
прыціскаючыся да сцяны не называеш
дрэўца што над абрывам мужным і смелым
ты — толькі
аддзелены пах сачы
за выпадковым сабакам
крыху сп’янелым
што вылізвае разлітае віно
асцярожна між аскепкаў разбітай бутэлькі
баючыся
параніць язык

*1–2 кастрычніка 2008*



Парупся аб небасхіле, аб вячэрніх статках,
якія ідуць
Піць ваду. Аб тых, каму не трэба шмат месца,
Каб упасці, і не нашмат меней, каб устаць.
За купаламі клёнаў
Заходзіць сонца, і гэта — прыгожая паштоўка,
І табе не хочацца ведаць, што напісана
На адваротным баку. Ты — нешырокая,
Нават вузкая, але ад таго й глыбокая
Рэчка. Дзёран зялёны — і пачарнелыя
Берагі. Там хаваюцца мары твае — ра́кі,
Што сядзяць у норах, і хлапчукі
Ловяць іх рукамі
Асцярожна і смела. Багацейшы за ўсіх
Адпускае здабычу — ён шчаслівы знаходкай.

Акуляры ў чарапахавай аправе
калісьці надзене старасць.
...Нарэшце ж — зламай
Сургучную пячатку, не пашкодзіўшы вензель.
Чыймі крыптанімамі
падпісаны ліст, што чытаеш?
Чаканне — свята найбольшае,
а момант, які надышоў,
Падобны спатоленай смазе. Смагу — любі,
Бо яна адчыняе дзверы,
За якімі няма пылу і чалавечых касцей.

Ёсць вузлы, што распадаюцца
ад жадання рассекчы.

*6 кастрычніка 2008*



Я любіла глядзець на сястру,
калі яна
змывае пылок матыльковы з далоняў.

Ранкам чакаецца вечар, вечарам —
ранак.

Безліч каштоўных рэчаў
ёсць у мяне: веер стары кітайскі
(о, яму шмат гадоў), бутэлечкі
з пахам лаванды, ірысу ды рамонкаў,
сколы горных парод (прывёз іх з вандровак
адзін чалавек); рамачкі для фотаздымкаў
колераў розных
(саміх фотаздымкаў няма на стале —
я іх прыбрала ў шуфляду й замкнула:
вобразы лепей
трымаць унутры).

Ранкам чакаецца вечар, вечарам —
ранак.

Каго ты чакаеш, сястра,
і нашто матылёк?

*27–28 кастрычніка 2008*

# Налі...

Мы выйдзем адсюль праз дзверы,
забітыя цвікамі, што праржавелі,
жывыя, мы выйдзем праз дзверы,
і ўласнае цела з дыханнем я вынесу
спелым, з галінкаю вынесу персік —
і свежую ружу, цыкорыі, сіні
агонь першых сліў, расцярушу,
засею сабою палі — і ў нябёсах гароды,
калі Ты дзе ёсць — мне налі хоць
глыточак за подых.

*11 лістапада 2008*



Мы судзім непадсудных, а падсудных
Судзіць няма каму. Яны ідуць
У цёмны парк, закінуты і цудны,
Ля рэчкі той, дзе човен на ваду
Не ляжа доўгім целам — стала плыткай.
Нам перайсці яе — вады па лыткі.

Мы судзім непадсудных. У майстэрнях,
Дзе дошкі твар кладзецца на варштат,
Дзе воцат на кап’і, і ў яркім пер’і
Паўлінавым — то Юдаў чысты сад.

Хто смелы з нас? Хто дакранецца пэндзлем
І перапpавіць цені на святло?
Сказаў мярцвяк, што будзе жыць прыемна,
Чыё прадаўгаватае жытло.

Невідавочны лёс — як маеш, сцвердзі.
Ёсць вішня — і быльнёг зямное цвердзі.
Шагрэнь жыцця уласнага — і смерці.

Хто бацька здрад, прадажных, — гаварыў нам,
А Юда — рэха — толькі паўтарыў:
«Не сам учынак, а яго матыў
Звычайна вырашае. Так і ты...»

*2009*

# Ля караня

Не наракай на цану.

Жыццё —
Гэта імкненне замураваных прабіцца наверх.

Ты глядзіш на расліны — яны паказваюць
прыклад.
Дзівішся мужнасці іх
ды цярпенню,
Іх шырокаму лісцю, зграбным пругкім
сцяблінам.
Ягадам, што растаюць удзячна
на тваім языку.

І дзіўна самому, як могуць рабіцца
кроў і жыццё
Рэдукцыяй ненаціскных галосных,
Невымоўным спалучэннем зычных,
распадабненнем,
Лабіялізацыяй... Моўнымі з'явамі, уласцівасцю
вымаўлення.

Але зноў ты — парастак, сцябліна, зялёны ліст,
жоўты ліст.

*2009*

# Песенька

Ёсць сягоння дзень шчаслівы,
І яго дзяліць не варта
На чужы і свой.

Будзь пустой
Вялікай чарай,
Што напоўніцца ў імгненне,
Вуснамі — адначасова.
Пі. І ні аб чым не думай.
І адзення шолах — вецер,
Край сукенкі, дакрананне
Да крыса плашча, усмешка;
Гэта ўсё — табе і мне.
Пералікам простых рэчаў
Спрабаваць абараніцца
Ад таго, што там, за спінай,
Больш не трэба.
Вольны, вольны.

І таму хрушчы абралі
Для сябе аэрадромам
Нашы плечы. Нашы вочы —
Для мастоў старых люстэркі.
І таму вясновы промень
На тваіх спыніўся веях.
І таму я бесклапотны,
І таму я крок маруджу.
А калі таксама й ты ўжо
Нецвярозая ад вуснаў
І абдымкаў — значыць, болей

Без патрэбы нам пытацца
У нябёсаў аб надвор'і.

І каб разам быць заўсёды,
Без патрэбы
Паміраць.

*18–19 лістапада 2008*

# Нашыя словы занадта вільготныя

нашыя словы занадта вільготныя
нібыта рыбіны што лятуць пакідаючы
пырскі на ветразях ранішні кукурузнік
скідвае на дах гаража мяшэчак чырвоны
у якім пясок і цыдулка
там пазначаны квадраты месца пажару
бацька вяртаецца з паўдарогі назад хутчэй
да лясніцтва так і не паказаўшы месца
дзе быў падмурак хутара тваё нараджэнне
помню маці наразала яблыкі й грушы
тонкімі скрылёчкамі і на бліскучых лістах
паперы клала ўсё гэта на шыферны дах пляскаты
веранды няхай прасохнуць —
і гэтак было смачней
марская соль і тая якая на кухні
уражвалі падабенствам
вячэра пазбаўленая лішніх рухаў
нібыта малітва перад нечым што будзе пасля
самыя блізкія людзі не менш за астатніх
часу належаць прагна ўсмоктваюць
нашыя словы вільготныя ад любові
я выношу сябе пад сонца багатае на цеплыню
прыгладжвае валасы мае вецер — і разбэрсвае
але ці ён гаспадар?
                                        наваколле твая пяшчота
не пранікае ўглыб дакранаешся

да маёй смуглай скуры маленькай вузкай
далонькай
лашчыш мяне

над магілай старых майстроў прасыхаюць словы
хлопчыка які зберагае дзяцінства
на потым калі застанецца сам

*18–20 лістапада 2008*

# Таму не адкрые

нешта адбываецца ў зародку кветкі
усярэдзіне зерня што нараджае парастак
нам усё трэба ведаць
усюды дзе толькі магчыма хацелі б
паставіць сістэмы відэаназірання
о каб ведалі мы што нам трэба
табы б!.. ды навошта пра гэта
але праўда ў тым што ніхто не скажа
праўды
нават ТОЙ ХТО ВЕДАЕ СЦЕЖКУ
бо АДЗІНЫ ЎЛАДА ЧЫЯ
спачатку ведае нас

і таму не адкрые

*20 лістапада 2008*



I

Цыбатае бусляня
Спаткала змяю ля пня.
Карова хвастом забівае сляпня.
І побач — сцяна, за якою я.

Размова — яе непатрэбна чуць.
Калі ж ты чуў — не трэба казаць.
«Я сёння лётаў». «Ты хочаш заснуць?»
Карова згубіла трупік сляпня
І цяжка глядзіць спадылба на свет.
Я — хлопчык вясковы. Мне ве-ла-сі-пед
Падарылі сягоння — глядзі! — бацькі.
Я кроплю расы
не здзімаю з рукі.

II

Бусляня, тваёй маці зляцела пяро;
Бачыш — злавіў, бачыш — пішу.
Змяя, тваю скуру — счужэла дабро —
На сябе не адзену, як ні грашу.

Я хацеў бы маленькім нямым пастушком...
Ды навошта казаць? Ідзе бусляня,
Праводзіць марудна яго змяя,
Карова жывым адпусціла сляпня.

Перастане кусаць? Ператворыцца ў дым?
Націскаю педалі пад небам, дзе Ты.

* * *

вас так проста купіць на
прачулыя ноты аркестраў

*2008*



Што такое вальфрам?
Падыдзі да паліцы, слоўнік
Адкрый. Прачытай вызначэнне.
Але — калі ты не лямпа
І не ўнутры цябе
Трывае напругу
І зззяе
Тонкая ніць, —
Чытанне
Будзе дарэмным,
І ад разумення далёкім
Ты застанешся,
Што
Такое вальфрам.

*24 лістапада 2008*



Я прашыў свае вены суроваю ніткай
Ад запясцяў да згінаў у локці. Ямчэй
Зелянінаю, рунню палі свае выткаць,
Бо нябёсы так часта мяжа для вачэй.
Нехта птушак запрог у нябесныя сані.
Там нікога на сене, дзе цёплы кажух.
Толькі клён празвініць нам іржою, лістамі,
Што ляжаць, быццам тонкае шкло, пад нагамі,
Ды мяшэчак з насеннем пад пахай. Удвух
Ты і я. Наваколле
бясснежна-пустое.
Нам дазволяць пакінуць на вежах званы,
Кнігі ў скрыптах — і наша багацце зямное,
Бо мы самі належым. Не вольныя мы.
Я прашыў свае вены суроваю ніткай
Ад запясцяў да згінаў у локці. Раство
Надыходзіць, і Той, хто народзіцца з німбам,
Вызваленне падорыць — мы прагнем яго.

*31 снежня 2008*



Не пераліць да кропелькі сваю
Я кроў хачу ў карэнне дрэў памерлых,
Каб іх уваскрасіць;

І не паліць вадою жыватворнай
Учынкаў і памкненняў дабрадзейных
Душу чыюсьці, што на ўскрайку дня,

Засмяглая, бы дрэўца маладое,
Стаілася, чакае... Не і не.

Я *іншага* хачу.
Маё хаценне
Вядзе мяне.
Блукае ўсмешка — нечаканы госць —
На вуснах, і ў руцэ — стырно...
І я збіраю ў днях — збіраю дні.
І ў кожным дні, дзе вечнасць
і свабода,
Я аддаюся радасцям стыхій.

І ў снах пакуль што не прыходзіць
да мяне
Хлапчук белагаловы.

Ён не пытаецца — ці чыстыя палі,
З якіх сабраў я зерне, — гэта значыць,
Ці не атрутны хлеб... Ён не глядзіць
Уважлівымі светлымі вачамі
Ля вузкай і глыбокай рэчкі,
Што бруіцца

І круціць жорны млына...
Што б тады
Яму
Сказаў я
У адказ?

Быць можа, гэта?..

...Праверу я сябе
Малітваю. Калі душа жахнецца
Самой сябе, і ўсе мае дары
Адно і вартыя, каб высыпаць пад ногі
І затаптаць, то зразумела. Што ж...
Калі ж зусім не так, тады... тады...

Стаю і моўлю ціха слова: «Ойча...»

Далей — маўчу. Я прадчуваю суд.

*3 лютага 2009*



гэта
кварц
прарастае ў шкле як пухліна
замяшчае празрыстае цела сабою
там за вокнамі свет разнаколерны яркі
і зямля быццам здабыча ляжыць пад нагамі
людзей
я хаваю свой профіль у каўняры паліто
а трамваі фатаграфуюць успышкамі
двух паэтаў на лаўцы ў парку на месцы
габрэйскіх могілак
яны распіваюць бутэльку кагору з пластмасавых
кубачкаў смеючыся
чытаючы вершы адзін аднаму і бязмоўным
касцям
я замыкаю ў сейф свайго сэрца шмат
рэчаў непатрэбных каштоўнасцю
болей не перасыпаю з далоні ў далонь попел
ад спаленага пер'я ластаўкі
ведаю: ёсць мясціны там дзе ўначы асядае туман
(і гэта добра бачна з вакна трамвая)
у лагчынах пароcлых дрэвамі ля чыгуначнага
пераезда
ля замерзлых рэчак дзе горкія ягады невядомай
расліны
ператрывалі мароз
і мне крочыць туды
і ў гэтым зарука што так не будзе са мною:
кварц прарастае ў шкле а пасля
мільгаюць халодныя іскры-агеньчыкі

на тым
што помню празрыстым

*16 студзеня 2009*



...Мяне вядзеш
У Гефсіманскі сад. Навошта?
Там разабрана ўсё даўно на сувеніры,
І з Галгофы
Кавалачкі крыжа па цэрквах. Раз у год
Святога кроў у посудзе закрытым
кіпіць,
І людзі дзівяцца... Няхай
Не ў Іерусаліме — у далёкай
Італіі... Што хочаш мне сказаць?

Яна зірнула моўчкі. Ад свабоды
Ёсць лекі пэўныя, і гэта — чаргаванне
Дажджу і снегу на ваконным шкле,
Бацькоў старэнне — і дзяцей сталенне;
А твой уласны досвед, бы кіёк
Прад непраходнай багнай... Абапрыся.

Яна зірнула моўчкі. Падала
Тры ручнікі для ўнукаў — на чырвоным
І срэбным полі вышытыя там
Цюльпаны сінія. Адно й сказала:
ўнукам...
Ты, маці бацькава, мая бабуля,
Адно й сказала перад смерцю. ...Так

Бывае, што зачыненая брама
Царквы. І стрэнецца табе
Пагляд спакойны нечы. І прычасце
Ты атрымаеш там, дзе не чакаў,
І разуменне — нешта засталося

У садзе Гефсіманскім. Узамен
Перадасі — ты помніш? — ручнікі
Чырвона-срэбныя з цюльпанамі.
Жывыя.

*14 лютага 2009*



I

Не вычарпаць мяне: я не вада — пясок у студні.
Не вытаптаць мяне: я не зялёная трава — сухая.
З мяне зручней зрабіць не лук, а кій — з алешыны, вярбіны;
Цераз равы — яно зручней так будзе ўсім, хто з вас кульгавы.
Прычэпіцца жабрак — да прасталыткі? хлебароба?
Наблізіцца пасмей (паспей) да багацея, што з аховай.

Мой хлеб счарсцвеў, ды ад таго смачнейшы,
Размочаны ў вадзе крынічнай.

II

Ломкімі стануць лісты, як ты складзеш той гербарый.
Лепей ім згнісці, згарэць — гэта лёс іхні.
Лепей нам стрэцца было — і без развітання.
Рукі звязаць — тваю і маю — ды на дзвесце адсоткаў

Ад ліха і шчасця былі б на адлегласці роўнай.
Тое, што ёсць у нас, — келіх, карэц — адпаведны
Святочны й будзённы напой, ад якога патрэскацца вуснам.
Бо вартае лепей пакінуць
прыкмечаным дзецям
І ластаўкам-птушкам, што слінай змацоўваюць гнёзды.

## III

Леташні ліпень — учора быў лівень — адзенне ў абліпку.
Так прыгажэй, — аб гэтым спявае мярцвяк-тэлевізар.
Што кажуць жывыя? Адсутныя тут — і заўсёды?
Дзе іхняя праўда — і ў чым? Чаму іх хаваюць падвалы?
І дротам абнесены пляц, дзе складзены целы бярозаў?

## IV

Калі ты ідзеш на двубой, правер, каб не быў надламаны
Рапіры клінок. Згоду, слова даваць, абяцанне абранай
Не варта спяшацца, як цёмны бок поўні прывабіў, паклікаў.

І жыццёвыя планы да сметніцы
першай — як сваё рэзюмэ — данясеш.
Самыя шчырыя люстры ў
кастрычніцкіх лужын,
Самая смачная кава ў маім кацялку,
падыходзь.
Поўныя прыгаршчы светлых навін — і
прароцтваў
Насыплюць нам ранак і дзень,
адвячорак і, ведама, ноч.
І з кожнай хвілінаю вогнішча зыркае

лепей відаць
З пагорка таго,
Што паўстаў адкапанаю
Вежай.

*6 снежня 2009*

# Чатырнаццатая гадавіна

Там, ля моста, — прамыіны. Лёд,
быццам кладка-дарога,
Бела-чорнай няроўнай палоскаю лёг.
Валюхаюцца качкі; плывуць. І кавалкі батона
Ловяць дзюбай шырокай. Пачаткі шляхоў
Прад табою, глядзі. У руцэ —
Баратынскага томік.
Лёду край над вадою, нібыта лязо;
Ды тупое, а значыць — сягоння ты можаш
спакойна
Крочыць шпарка. Ты — корань, што страціў
падзол.
Трэба сеяць цяпер. Гэты снег —
толькі праўда-зарука,
Што за выйсце далёка не кожны плаціць
Можа тым, чым хацеў. І цяпер —
як салодкая мука —
Беглы крок, што прыспеў. І слязой залаціць

Не патрэбна нікому за гэту магчымасць далонь.

*24 студзеня 2010*



Я выйду на святло.
Прамень
Праб'е наскрозь.
І ўсё, што ад мяне самога
прыхавана
На чорны ці, магчыма, белы дзень,
Аб'явіцца,
Таемным перастане быць.
Прыўкрасныя — і велічныя вежы
Ў імхах балот, на дне азёр
Ў абліччы сціплым.
Ты, нямко-дзяўчына,
Мыш у нары, змяя ў лагчыне, вожык, —
Вы — спадкаемцы мне.
Майго.
Лістоты адрасаты.

*1–2 лютага 2010*



Будзем лічыць, што мы на сягоння ў разліку.
Я падарыў табе
Ў квецені ліпу,
А ты — карміла цукрам з вуснаў пчалу.
Імбрык заварваў гарбату па імені Ла-ла-лу.

Ла-ла-лу, ла-Лу-ла,
Дзеўчына заснула.
Можа, прыхапіла
Ў сон, каго любіла.

Драўляная рэйка адстала. У шчыліну — вецер.
Антонаўка — на падваконні. І — светла
Ад гэтага робіцца ў цемры, дарэчы пасланай
Упадабанаму,
Упадабанай.

Без пажаданняў маіх
Вецер узнік — і заціх,
І без тваіх — руні расцецца,
Лістоце — гніецца
Апалай,
І часу ні многа, ні мала.
Чамусьці ж цябе я абраў — і мяне ты абрала.

Порах — каштоўнасць;
Дарэчы таму, хто сабраўся страляць,
А так — бессэнсоўная рэч.
Кожны з нас ведаў, як важна
Заўжды сустракаць

Яшчэ да
Сустрэч.

Будзем лічыць, што мы на сягоння ў разліку.
І хай гэта будзе
Нашай
Кропкай
Адліку.

*26–27 лютага 2010*



Палубнай авіяцыяй
лепей за ўсё змагацца
з суслікамі ды кажанамі,
яшчэ — з прусакамі, моллю,
кляшчамі
і пацукамі.
Гэта вядома ўсім,
і мяне напішыце за вамі.

Лётчык трымае кальян,
не адпускае штурвала.
Пра гэта ведае бацька,
маці здагадкай трапляла.
Абдзелены ўвагай заўжды
выробляе штукі,
пасля якіх застаюцца
пустыя аулы. Глюкі
не абмяняць на хістанне
каяка, чытай — каюка.

У што ты гуляў адзін
дома ў прысутнасці пальмы?
Малпаю быў —
ці пародыяй
на ансамблі,
спевы якіх так любіў
слухаць? Кружэлкі
заядаюць там, дзе на іх
ставяць бутэлькі.

Цяпер ты вырас,
і тры акіяны гатовы
прыняць
твой штурмавік
у свае абдоймы.
Але ты няспешна
зацягваешся цыгаркай
і згадваеш матчыны грэнкі.
Заўжды іх любіў
за прыгаркі.

Ведае Парка, што нітка,
знутры гнілая,
моцай
цяжар не ўтрымае
пустога трамвая,
не кажучы — поўнага.
Так мы сябе хаваем,
каб не трапляцца на вочы ёй,
за падземным гаем,
дзе мыш шалясціць лістом,
а крот, прапаўзаючы ходам,
віншуе трупных чарвей
з надыходзячым
новым
годам.

*4 сакавіка 2010*

# З дзённіка

Чарапаха паўзе. Я кажу — чарапаха паўзе пад чэрапам, час ад часу хістаючы тулавам і галавою то ў адзін бок, то ў другі. Неабходнасць у гэтым тая ж, што і заўжды; акаляючы час можа раптам крануцца існага ў гэтай істоце, якая ўнутры гэтаксама як унутры і ты, бы ў водах маці плодам плывеш, у прасторы, якая націскае на шкло ветрам, дажджавымі кроплямі дасылае сваё морзэ. Выпіць. Выпіць тыя лісты-лісціны, дзіўна і нечакана глыбокія, жоўта-чырвоныя, часам дзіравыя. Плаціны роўны і штучны шум чуецца зводдаль; ліст не на дне калюжыны ля бардзюра са свежым адбіткам аблокаў — на паверхні яе; лісты, складзеныя й перавязаныя жоўтай вяроўкай ці складзенай у некалькі столак ніткай, якія й па смерці іх маці табе пакідае, жывая.

Я — гаспадар пакоя і я вольны каб кветкі — засохлі, абстаўленыя з усіх бакоў бутлямі, поўнымі і празрыстымі; але — не. Болей не мець, чым есці і піць?.. А што ма́е медзь — ручка дзвярэй? Выдаліць нешта ўнутры — словам (сказаць такое — смяяцца над смехам тых якія смяюцца над смехам) і потым я — гаспадар пакоя і я вольны (каб) краб вучуся перамяшчацца выдумляючы правілы новага дня не для сябе — для не сябе. Штосьці кліча — далей ад чарвівага яблыка часу трэба адразу раптам з сярэдзіны а з гліны ляплю. Ляплю і люблю і натую ў нататніку як п’яны Сыс — але крыху п’яны — ляжыць на ложку глядзіць футбол я п’ю гарбату з мёдам якую ён мне прыгатаваў п’ю гарбату з мёдам і мы не раз-

маўляем добрыя хвіліны ў якіх паўната. Што мы жывыя гэта не наша віна. «Падарунак лепей паставіць у прыхожай ля шатні хай пагуляюцца дзеці але не трымаць перад сабой заўсёды люстэрка добрых вачэй». Жанчыны нешта гавораць але рэха іх хутка гасне рэха акром маці кожнай. Надта смачнае печыва і кароткатэрміновыя стасункі нібы клункі куды можна скласці (скрасці) колькі хвілін гадзін дзён але выносіць смецце мужчынская справа значыць ты. І значыць чуць што будзе сказана ў цябе за спінай. З гэтага можна таксама займець карысць а яе кароста навокал нават у аблямоўцы сцен дарагіх рэстаранаў куды не ходзіш адно зазірнуў неяк аднойчы пачытаць-паглядзець меню.

Быць можа
табе пашанцуе
страціць пашану.

*2010*



Ёсць
творы, што ўражваюць нават у пераказе
бяздарных апавядальнікаў;
нешта, чаго нельга спаскудзіць, ад чаго
немагчыма
нічога адняць; толькі — дадаць сваё,
калі нешта займееш, вырасціш, чым (на што)
пабагацела душа.
Месца,
адкуль ступаеш наперад, апору — маеш;
але ці бывае ўдзячнасць падэшваў?
І — шчырэй і вышэй: чалавечая ўвага,
магчымасць
слову — пачуцца й вярнуцца іншым.
Барозны — на целе зямлі, у якія надзейна —
легчы
і прарасці, як маеш — каму і куды.
А маеш — заўжды.
І толькі ў хвіліны, якія хочуць сабою ўсё засціць,
зацьміць, здаецца, што гэта не так.

*2010*



Зацерушыць, абсыпаць можа вецер
Дарогу й сцежку квеценню і снегам.
А нам — каштоўнасцю застацца на галінах,
А не счарнелымі шматкамі пад нагой

Такіх, як мы, якія не паспелі
Нічым з жывой прыроды абярнуцца.
І ўласнымі абдымкамі імкнуцца
Адгарадзіцца — і абараніцца.

Каб мы маглі сказаць — прашапацелі б,
Што розніцы няма, што тут — як там.
Адно датклівей тонкая паверхня
І гаспадарыць вецер без разваг.

Бракуе часу ў нас — затое промень
Нас першых азірае — і гартае,
Нібы старонкі
Нечытаных кніг,
Прад тым, як не знайсці лагоды ў тварах
І цені вашыя ў нішто ператварыць.

*15 сакавіка 2010*



— Ідзеш, як Гагарын. Глядзі — шнурок
развязаўся, —
Падвышаюць настрой яшчэ больш, без таго
неблагі,
Словы
Жанчыны сярэдняга веку.
А мой касмадром — ён так блізка... І каб
узляцець,
Сабе дастаткова бывае крыху
Абнавіць гардэроб
І гузікі верхнія два расшпіліць на кашулі.
Абрыс — ён заўжды ўдакладняецца сам.
Бо наводзіцца рэзкасць,
Калі набліжаешся й лесвіца стане любая
прыступкамі трапа.
...І чэшская Прага спускаецца з неба. Паднос
у руках,
і кава яшчэ не астыла.
Адрэса твая — на зваротным шляху электрычкі,
Што ў накірунку заходняй мяжы, неадхільная,
рушыць.
Ідзеш, як Гагарын... Ляціш, як халера (фанера).
І дзіўнае слова
Трапеча на вуснах, адвыклых
Ужо дастаткова даўно
Ад сентыментальных мелодый:
Радзіма.

*12 лютага 2010*



Мёртвыя птушкі губляюць пер’е,
А жывыя — толькі адно: давер,
Вер мне.

А іншае ўсё — для іх не страта,
Цёплая хата для Герастрата,
Краты

На вокнах запыленых, што — люстры
І небакраю, і Заратустру.
Вустрыц

Вагон прывязе, Чэхава — разам*.
Чайку жывую нельга абразіць —
Мазаць.

*8 красавіка 2010*

* Цела пісьменніка сапраўды прывезлі ў адным вагоне з — .

* * *

Насустрач — ноч. І — прэч, халодны вечар!
І я ўкладаю свечку ў дзве рукі
Заснулае прад самаю сустрэчай, —
І полымя яе, і цацку-вечнасць,
Бо адгарае. Нехта ж — нацянькі

Нам раіў крочыць, ды на тых прыступках
Ён сам не быў, і раіў ён падступна.

Акцэнт на кожнай ноце! Дзірка ў плоце
Не дапаможа ўратаваць штаны.
Дурнота й шчасце толькі па ахвоце
Уласнай, як хвалько, б'юць у званы.

Таму — любі: пячорныя прысмакі,
Што туляцца між «нельга» ды «ільга»,
Накрэсленыя сонечныя знакі
На вершалінах, на рудых стагах.

Узнёсласць? Не. Лацвей тады сабаку
Дагрызці костку з мозгам, чым брахаць

На ўласны цень.
Мяне сустрэне дзень.

І попел матыля адно засведчыць,
Што мы ёсць куфар з непатрэбным вечкам.

*25 верасня 2010*

* * *

Гаворачы словы, я нібы адхінаю галіны,
што закрываюць шлях.

*Снежань 2010*

# Мізэрнасць міласэрнасці, даруй

— Мізэрнасць міласэрнасці, даруй,
Што я ізноў прынёс маю зару
Туды, дзе пакланяюцца дабру.

Што зноў сваю я не дратую плоць...
І хітра мне ўсміхаецца Гасподзь:

«Што, гіцаль, ты сягоння натварыў,
Якія словы маці гаварыў?
Ці ўведаў ты, што цёмныя сляды
Не прывядуць у светлыя сады?»

«Струною можна хлеб дзяліць на ўсіх
І адшукаць неадшуканы міг.
І кожны вечар помсцяцца сталы
Сімфоніяй для гнуткае пілы.
Глядзі — такія кемныя сталы...
Хто бацькавы абуе пасталы,
Раменьчыкам падвяжа валасы,
Лязом абрэжацца айчымавай касы,
Ля грубкі ляжа ў цвёрды ложак спаць, —
Назаўтра можа той інакшым стаць.

Не выбірай між «неяк» і «ніяк».
І плугам вывернуты з глебаю чарвяк
Не рады граку, курчыцца, дзівак.
А полем узараным наўскасяк
Ідзе і грузне той, каму ўсё так.

Але ад гэтага трымаецца далей,
Хто сам на сходах праліваў алей.

Бо кошт сапраўдны мае той мядзяк,
Каторы заціскаецца ў кулак.
І дзівіцца свайму найменню род.
Цяпер рыхтуем дзёгаць для варот.

І нашых думак для сябе ж сіло
Рыхтуецца, бо н е ш т а адышло».

*28 лістапада 2010*



Сказаць паспрабуй: даволі агню гарэць,
Даволі тваёй сяброўцы далоні грэць,
Іскрам у цемру ляцець — і там згасаць.
Зноў паміраць і зноўку — уваскрасаць.
Даволі крату пазіраць у сваю нару,
Кулі даволі вучыць кабана дабру.
Нешта шукаць на вяршыні, апроч ільду
Ды камянёў. Бо сцежкаю той іду.

Страцілі мэту, і ўсюды цяпер канца
Свету чакаем знакаў, жыцця вянца.
Лезем у комін — чорнай кашулю зрабіць
І гарнітур шыкоўны, і больш не жыць.
Мы адбіраем толькі
тое, што трэба нам
Для страўніка, для галавы. Яшчэ — напалам
Астатняе дзелім паміж прыблудным катом
І электроннай скрыняй,
для смецця надзейны дом.

Сказаць паспрабуй — Той, якая ўсутыч
падышла, —
Што хочаш яшчэ крыху цяпла і святла,
Што Збаўца анёлаў пашле пераняць душу.
Сказаць паспрабуй, хоць я цябе й не прашу.

Пізанскую вежу няхай «Тытанік» вязе.
Тое, што маеш страціць, адшукай у нідзе.

*30 лістапада 2010*



ты патраціў сваё жыццё на тое
каб глядзець як ападае лістота
у драўлянай хатцы над чыстай вадой
вачыма паказваеш на дзверы жанчыне
чыё гасцяванне скончылася
ласкава ўсміхаешся куточкамі вуснаў
не быць стратай нікому й ніхто не страта табе
ты кожны дзень чаканіш свой твар
на гэтай манеце якая каштуе ўсё даражэй
гатуеш дачцэ пасаг складаеш у куфар
шыеш як маці ўбор
як бацька зімою на лыжах абыходзіш лес
правяраеш кожнае сіло і яму
хціві тхор цікуе за куранятамі
а ты замест сабакі-вартаўніка
забіваеш яго з трубкі паветранай тонкай стралой
вывешваеш у драцяное пятлі як навуку іншым
вучыш дачку як абыходзіцца з часам каб
не пакідаў
рысак на твары
варыш бульбу й запякаеш у прыску
свежае мяса казулі
лес робіцца ўсё больш разумным і пасылае
да цябе
вавёрку зайца вужа
на перамовы як аб'яднацца і колькі даніны ён
згодны
выплочваць табе каб разам
супрацьстаяць — табе гэта будзе проста —

тым што ўсё-такі прыйдуць — і застануцца тут
назаўсёды

бо твая вада для іх яд

*2010*



Адплываю ў новыя краі
На сваім дзіравым караблі.

Квецень грушкі — ды чмяліны мёд.
Ветразі, як сон наадварот.

Корань сэрца блізкі да глыбінь,
Дзе ніхто ніколі не адзін.

*Студзень 2011*

# Песня

Людзі сустрэчы і людзі расстання
жывуць навакол;
крышыцца дол,
дзе крот падымае паўстанне;
конь праваліўся з плугам у яму,
бо выпетрыўся падзол.

Верныя мы немагчымай сустрэчы;
аберагуць нас бацькоўскія рэчы,
пасму хавай, медальён:
цэгла не грэе разбітае печы,
бо малака непаднесены глечык
не дараваў легіён.

Цяжкія латы, маўклівыя латы.
Мары мае — вы таксама салдаты,
бо гінеце за мяне;
я — быццам замак, маўклівая вежа,
той, каму я ад ніколі належу,
травой між зубцоў па вясне

узыдзе, засохне, засне.
Сябе не патраціць сцяне.

Людзі сустрэчы, людзі расстання,
вы мне вястуеце добрае ранне,
бо сам я заўжды ў навіну
дзявочым абдымкам, далоням хлапечым,
плашч на мае
упартыя плечы,
каню пад нагой — цаліну!

Хай мне ў руку увап'ецца жалеза —
сцісну яго да крыві;
дзе вы, святыя, галаварэзы,
бо кожны пагляд ваш
ім сэрца надрэжа, —
хто жахам сэрца спавіў;

таму, хто жыў — і не быў.

*13 студзеня 2011*



Калі яшчэ лепшыя нашыя думкі, ідэі
нясуць на сабе яўны след вышняй насмешкі — праўда, не без дамешку спагады, — што гаварыць аб астатнім? Ніжэйшая ступень, на якую нас падымае розум, усё ж дазваляе бачыць след першай задумы і неадхільны парадокс пераўтварэння повязі — у ланцуг.

*17 студзеня 2011*



Усім, хто з аркестрам памёр
І быў з цішынёй пахаваны,
Усім, хто без вестак жывы
І з'ядае без хлеба свой дзень, —
Я сын груганова,
Я ведаю слова
І тую траву, што кладзецца на раны, —
Траву
на паляне ў крывавым тумане,
Дзе пасвіцца вольны з прабітаю шыяй алень.

Бо шкода заўсёды, калі
наша праўда мяжуе са змрокам
І праўду сказаць пра бацькоў — гэта здрадзіць,
прадаць.
Бывае, што й крот пад зямлёю ўзлятае, лунае
высока,
Як аб'есца грыбоў... А плуг пачынае араць.

Той, хто чыстыя рукі адзнакай лічыў, атачэнню
Казаў,
Хоць маўчаў:
Ёсць такія мясціны, куды для праблем
вырашэння
Лепей заўсёды прыходзіць без запрашэння.
Бо запрасяць калі —
Не будзе цябе на зямлі.
І сатруцца ў анёлаў на цвёрдым гароху калені.
Каб сагрэцца ў ільдах, спаляць свае
караблі каралі.

*Люты 2011*



Над каменем — сняжынка. А ручай
У метры справа пад ільдом.
Шурпаты кокан — хата. Прыкмячай:
Навідавоку сам ты і твой дом.

Як пудзіла нядобрае, зіма,
Бо кожнага адразу ў множны лік
Перавядзе: ты кропка і адлік.
І нам мароз шнуруе чаравік,
І рукі скутыя, і абдымаць дарма.
Зіма нас выбеліць, нібыта чарнавік.

Што чуецца мне ў звоне ледзяшоў?
А тое, што душа мая бруіць.
І сам я не застаўся, а пайшоў.
Пячора скрыпкаю аднойчы загучыць.

І ён ляжыць пад настам, пад пластом
(Дзяліць на дзесяць, памнажаць на сто), —
Лістоты рой, святая вастрыня,
Бо старцамі сузор'і дабрыдуць,
Бо перасмешнікі не граюць, а гудуць.
Як тут нам быць — не дачакацца дня.

А хто застаўся — той вартуе
                                        кулю.
Пашыла маці з ветразя кашулю.

*21 лютага 2011*

# Штрыхі

I

Куды гарбатыя лятуць буслы
І кліч палёў якіх ім песціць слых?
Быць можа, тых, дзе праўды кожны міг
Адкрыты ўсім — і вольны ад усіх?

*25 студзеня 2011*

II

Гісторыя
імя
не захавала,
Хто не даплыў
хоць крышку
да прычала.

А пэўна ж так, што менавіта ён
Быў першым, хто прайшоў ля мыса Горн.

*22 лютага 2011*

III

Бо незалежна:
— Горы й пагоркі адно для таго,
каб на іх узыходзіць, бачыць навокал далей, —
так мне казаў праваднік-бедуін.

*24 лютага 2011*

IV

Я сам сабе ёсць
бацька і айчым.
Айчына
застаецца ні пры чым.
Я сам
і паліцай, і партызан.
Пасуе часам, нібы фрак, рызман.

*28 лютага 2011*

V

Не мёд,
і не яд,
і не кроў, —
іншае рэчыва трэба тут
вынайсці, каб пазбыцца пакут,
рукі
ад ланцуговых прыбраць дароў
ды выправіць перакрут.

*25 лютага 2011*

VI

Ён размаўляў над падлай і арламі
З няўцямнымі, нішчымнымі дарамі,
Душа якіх забрала нашу з вамі.
Высокі ён — ці мы адпалі самі?
Вартуюцца магілы груганамі.
Вада ў дупле, налітая дажджамі,
Крыніцы даражэй, што перад намі.

*16 сакавіка 2011*

## VII

Абняцца
прад мяжою цела
з ценем
І збіць калодкі
са здранцвелых
ног,
Альбо — чакаць,
каб падабрэў
бульдог?
І н а к ш а е,
па шчырасці,
карцела.

*25 сакавіка 2011*

## VIII

Хто зацверджаны ў спісе, каго павядуць
на расстрэл,
Ці — ля дошкі стаяць ім, ламаючы крэйду?
Прыцэл
Выпускнік намалюе, што ў марах даўно афіцэр.
І заўсёды існуе
адзін запасны варыянт —
Абярнуўшыся цацкай, упасці ў куце за сервант.

*10 красавіка 2011*

IX

Кляйміла сонца неба — знак сышоў.
З уласных выбавіцца здолей сноў.

*18 красавіка 2011*

X

За некалькі глыткоў з каменнай чашы
Ты вып’еш, так, што кроплямі ўвесь год
Збіралася. Няўжо наадварот
Нам суджана: таемных думак нашых
Празрысты россып, вымкнуты з турбот,
Засмяглыя не змочыць вусны Часу?

*19 красавіка 2011*

XI

Намазаныя тлушчам спускі-сходы
Пад крык людзей — да мора шлях, Арго.
Ні прыгажуня, ні руно — ні да каго
Не прывядуць. І помстаю свабода,
Хто знаў яе, і блытаў поры года,
Прадказваў лёс — і сам не меў яго.

*5 траўня 2011*

XII

Зноў паклікалі мёртвых глядзець
на жывых-на-нажы;
Прыцягнуліся ўсе, хто збярог свой астатні абол.
Бачыш — поўная зала... І толькі на самай мяжы,

Дзе прастора сустрэнецца з тэкстам,
накрыецца стол.

*9 траўня 2011*

## XIII

Прыкметай таленту — нязмушанасць гаворкі
Лічыць так зручна, дружа. Паглядзі:
Паціху алебастравыя створкі
Нас аддзяляюць ад вады й зямлі,
І мы выбельваем пад колер гэтых створак
Сваёй любові свет: я, ты... Для некаторых
Не існаваць і быць — звяно паўтораў.

*26 траўня 2011*

# 1989 год

Вымкнуты штэпсель, але індыкатар не гасне
адразу.
Ён цьмянее, просячы прабачэння
за сваё паміранне.
Зноўку і зноў загараецца, падуладны майму
хаценню.

Ці быў я — скажы — для цябе хаця б
індыкатарам?
Знакам, што прамінуць немагчыма — і не адчуць?
Пасля спаткання ля «Несцеркі» — сціплая
менская крама —
Мы з табой — а табе падабаўся звычайна
Сам працэс перастаўлення ног —
Крочылі, выйсце сачылі за межамі шахматнай
дошкі.
Ісціна побач была — пачвара, цмок у пячоры.
А мы дапівалі вясёлкавую гарбату,
Прымружвалі вочы ад промня, абагаўлялі снег.
Мы толькі паспелі з табой перакінуцца словам,
Як адлучылі кантакты. Нас трэба пакласці ў лёд,
Каб мы захаваліся лепей? У вадкі азот —
надзейней?
Усю нашу кроў — у ёмістасцях спецыяльных
Зберагчы на наступны — ці будзе ён лепшы —
дзень?

Вымкнуты штэпсель, але індыкатар не гасне
адразу.

Ён цьмянее, просячы прабачэння
за сваё паміранне.
Зноўку і зноў загараецца, падуладны хаценню
(ценяў).
Мабыць, нас дачакацца зможа надзея.

Та́к вось яно: хто сам сабе не саступіў дарогу,
Яму
Інкруставаны кій — найлепшая ўзнагарода.

*10 сакавіка 2011*



...Куды спазніцца можна, ты спазні-
ся, у абавязковае прыйдзі.
Цямнеюць водарасці з глыбіні, з-за сноў.
Каб рэчку ткаць — дзе ўзяць аснову зноў,
Паўзверх узорам — берагі ды лёс
Падземнае дзяўчыны між нябёс?
Падперазаўся сцежкаю, абнёс
Сваёю чарай тых, з кім побач рос,
Знайшоў адно чым дыхаць на вышынях,
Якія адпачатку быў пакінуў.

*22 красавіка 2011*

# Парада Нерону (Дыягностыка і тэрапія)

Цкаванне звярамі гладыятараў, забойствы гладыятарамі звяроў, а таксама гладыятарамі гладыятараў лепей было б праводзіць у Калізеі пустым, а гледачоў (тут ужо — слухачоў) сабраць за яго сценамі: каб месца для рэха — болей і па крыках тых, што сцякалі крывёй, рабілася цалкам магчымым атрымаць уяўленне, што адбывалася там.

А таго, хто апіша дакладна, *што там было*, абраць народным паэтам.

І толькі яму прывілея — славіць цябе.

*10 траўня 2011*



Чарга
Тых, што ідуць, прад’яўляючы зрэз душы́,
Падаўжаецца... Нехта ПРЫМАЕ ПАМЯЦЬ
РАЗАМ З ДУШОЮ, стоячы на скразняку.
Падлеткі, жанчыны й дзяўчаты зграбаюць на лузе
Разам з травою — галовы, ссечаныя сцябліны
Святаянніка, стрэлак, васількоў, дзьмухаўцоў
і рамонкаў.
На гэтым — усё. Далей пачынаецца проста
Страчаны тэкст — напэўна, старога верша,
Які мне ў дадзены момант нашмат цікавей,
Чым тое, як жыць патрэбна — і верыць
у неабходнасць
Ператраўліваць сэрцам
Дні.
Чарга
Даўжэе... Што там
Было
Далей? Далей —
Чалавека судзілі, судзілі разам з усімі,
Але — не па справах яго. Ну вядома ж, так.

Вось — рэштка страфы. Словы таго, хто *прымае*.

«...Як свістам, як стукам, як хрыпам,
Як восенню мокрай, ірванай,
Зусім не туманам схавана
Сцяжына — заглушаным свістам.
І вожык з усмешкай-ухмылкай
Сказаў — не чутно болей свісту.



# Змест

* * * холадна дрэвам... ..................... 3
* * * наша заўтра заўсёдным пяском... ..................... 5
З нагоды лістападаўскіх халадоў: Эсэ..................... 7
* * * Пяро мусіць быць пяром. Тым, што ляціць... ..................... 14
* * * жоўтагаловы поплаў... ..................... 16
Накцюрн..................... 18
* * * Выспы, дрыгва... І мільгае хусцінкі краёк... ..................... 19
* * * Сястра і брат, і вечар немаўляці... ..................... 20
* * * Я пакрыўдзіў цябе? Што ж, даруй і бывай... ..................... 22
* * * Прылюдная споведзь стамляе... ..................... 23
* * * І не такія, як я... ..................... 24
24 студзеня 1996 года..................... 25
* * * Адзінае выйсце – ўзыход... ..................... 26
* * * – Ты добра падумаў... ..................... 28
* * * Мы – рыцары імгненняў... ..................... 29
Жбан, вада: Паэма..................... 30
* * * ...Але ёсць іншае, чаму служылі мы... ..................... 43
* * * Нам тоесны, нераспазнаны знак... ..................... 44
Юначае..................... 45
* * * Нязбытны сон... ..................... 46
Яно ..................... 47
* * * Хваля выкіне ў жоўты пясок слімака, слімака... ..................... 49
* * * Пляце сваю Арахна павуту... ..................... 50
Гарлачыкі..................... 51
Кветкі ў разорах..................... 54
* * * Нам зноўку абяцаюць, але нам... ..................... 55
* * * Усё, што за вачніцамі – па-за... ..................... 56
* * * Кармі з нажа бязрукага – ды так... ..................... 57
Пытанні ў адказ на запыт ..................... 58
Гаворыць Арахна ..................... 59
* * * Не ўвянчалі каронай увагі... ..................... 62

З вар'ятні? З папраўчай калоніі
Ён.
Канец працоўнага дня».
*14 траўня 2011*

Паэт ... 64
* * * Мне трэба непатрэбнае, жывое... ... 66
* * * ...Вымаві... ... 68
Нібы карціна ... 69
Псіхея ... 70
* * * Калі з вазона высадзіць расліну... ... 71
* * * Нам будзе проста праўду зразумець... ... 72
* * * Я сам сябе падвёў да краю... ... 73
* * * У бессэнсоўнасці знайду сваю апору... ... 74
Ідэнтыфікацыя па голасе ... 75
* * * На клавікордах – снег. Дажыць да сарака... ... 77
* * * Наша шчырае юнацтва... ... 79
* * * сярэднявечча рэк... ... 80
* * * Мы будзем гаварыць у калідорах... ... 81
* * * ...Прывіды той планіды... ... 82
Кампучыя ... 83
* * * Чорны конь пасецца ў дзьмухаўцах... ... 84
Рэліктавы лес ... 85
Самапісец ... 87
* * * папараць... ... 89
Песня табе ... 90
Старыя рыфмы ... 93
Сёння ўначы ... 95
* * * Не будзь са мной... ... 97
* * * Не паспеўшы згадаць у сне пра сваю таямніцу... ... 98
Катрэн ... 100
* * * Навокал святлее, але гэта не дзень... ... 101
* * * Я адцяняю радасці зямныя... ... 102
* * * Абмежаваная прастора... ... 103
* * * ...Тое, што размыкае кола... ... 104
* * * Вадой іржаваю напоеныя кветкі... ... 105
* * * Мне падабаецца быць свабодным... ... 106
* * * Словам не разгайдаць прастору... ... 107
* * * Калі я спяваў французскую песню... ... 109



* * * на ноч восень мая дачка... 110
* * * Я падаю на дно тваёй ракі... 111
* * * Сляды тваіх лыж замятае... 112
* * * Каб ведаў дуб аб тым, як будзе пахнуць... 113
Перыяд 114
Нямецкі верш 116
* * * Па-сяброўску кранулася дрэва пляча... 117
Размова 118
* * * Пакуль яшчэ сонца не зробіць кола... 119
* * * Жук у чаўне плыве... 120
Творчасць 122
* * * ...І, можа быць, адзінае ў вярсце... 123
* * * Мой белы плашч... 124
* * * клямка перавязаная хусцінкай... 126
* * * Сцябліна ўздымае кветку... 127
* * * Адзіночная камера. Снег... 128
* * * Там, за вокнамі, – холад імглы... 130
* * * Дрыжыць вады люстэрка. Я люблю... 131
Тастамент 132
* * * Не закладзена столькі ўва мне... 133
* * * Я губляю ключы на дарозе, я снег уначы... 134
Прароцтва 136
Пасля патопу 137
* * * існую... 139
* * * Парупся аб небасхіле, аб вячэрніх статках... 140
* * * Я любіла глядзець на сястру... 141
Налі... 142
* * * Мы судзім непадсудных, а падсудных... 143
Ля караня 144
Песенька 145
Нашыя словы занадта вільготныя 147
Таму не адкрые 149
* * * Цыбатае бусляня... 150
* * * вас так проста купіць... 151

* * * Што такое вальфрам?.. 152
* * * Я прашыў сваe вены суроваю ніткай... 153
* * * Не пераліць да кропелькі сваю... 154
* * * гэта... 156
* * * ...Мяне вядзеш... 158
* * * Не вычарпаць мяне: я не вада – пясок у студні... 160
Чатырнаццатая гадавіна 163
* * * Я выйду на святло... 164
* * * Будзем лічыць, што мы на сягоння ў разліку... 165
* * * Палубнай авіяцыяй... 167
З дзённіка 169
* * * Ёсць... 171
* * * Зацерушыць, абсыпаць можа вецер... 172
* * * – Ідзеш, як Гагарын. Глядзі – шнурок развязаўся... 173
* * * Мёртвыя птушкі губляюць пер'е... 174
* * * Насустрач – ноч. І – прэч, халодны вечар!.. 175
* * * Гаворачы словы... 176
Мізэрнасць міласэрнасці, даруй 177
* * * Сказаць паспрабуй: даволі агню гарэць... 179
* * * ты патраціў сваё жыццё на тое... 180
* * * Адплываю ў новыя краі... 182
Песня 183
* * * Калі яшчэ лепшыя нашыя думкі, ідэі... 185
* * * Усім, хто з аркестрам памёр... 186
* * * Над каменем – сняжынка. А ручай... 187
Штрыхі 188
1989 год 193
* * * ...Куды спазніцца можна... 195
Парада Нерону 196
* * * Чарга 197
Post scriptum 199

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 13

**Слінка** Віктар Віктаравіч

**АРАХНА**
*Вершы, эсэ, паэма*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Л. Дранько-Майсюк*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *Н. Кучмель*

Падпісана да друку 2.06.2011. Фармат 80x100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,92.
Ул.-выд. арк. 5,41. Наклад 300 ас. Зак. 455.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.